www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 68 (4217)

29 жніўня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



США–РОССИЯ

## Курт ВОЛКЕР: «Заморозка» конфликта в Донбассе грозит России изоляцией»

Спецпредставитель Госдепартамента США по Украине Курт Волкер считает, что конфликт в Донбассе обостряется. Решение же Кремля «заморозить» ситуацию и жить под санкциями американский дипломат оценивает как ошибочное. Об этом он сказал в интервью, опубликованном в британском издании The Financial Times.

По мнению американского дипломата, нерешенный конфликт на востоке Украины не даст наладиться отношениям между Россией и США. Он отметил, что в Вашингтоне всерьез рассматривают вопрос о поставках летального оружия Киеву.

Волкер вновь призвал Россию соблюдать Минские соглашения. Ранее после посещения Донбасса американский дипломат назвал бесспорным факт присутствия России в зоне конфликта, а саму ситуацию в регионе – "горячей войной".

По данным ООН, за три года войны на востоке Украины погибли около 10 тысяч человек, почти 24 тысячи человек получили ранения.

СТОП-КАДР

# Хто ў Беларусі не любіць бульбачку…

Не выключэнне – прэзідэнт Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка і яго сын Мікалай. А таму ў мінулую суботу яны разам з памочнікамі выбіралі клубні пасля праходу капалкі. Ураджайнасць, можна сказаць, высокая – недзе 350 цэнтнераў у разліку на гектар.



СЛЫШАЛИ?

## У нас появится деловая авиация

Бизнесмены будут летать на турбовинтовых и реактивных самолетах вместимостью до 10 мест. Первые рейсы откроются в 2018 году.

Есть информация, что 29 августа в Минске будет заключен контракт с одним из старейших европейских изготовителей – Pilatus Aircraft Ltd. (Швейцария) – на приобретение двух новых воздушных судов Pilatus PC-12. В планах – создание регионального центра сервисного и технического обслуживания самолетов Pilatus.

ПЕЧАЛЬНЫЙ ФАКТ

## ООН подтвердила инцидент с белорусским самолетом в Южном Судане

В Джубе пятилетняя девочка погибла из-за того, что самолет Ил-76, зафрахтованный Всемирной продовольственной программой (ВПП) ООН, задел крышу дома при посадке, сообщил официальный представитель Генсека ООН Стефан Дюжаррик.

Кроме того, пострадали две женщины и двое детей, передает ТАСС.

Инцидент произошел в среду. Самолет «доставлял помощь» в Южный Судан и приземлялся в аэропорту столицы государства «в очень плохую погоду», сообщил Дюжаррик. ВПП уточняет, что самолет «задел дерево, а затем металлическую крышу одноэтажного дома». Кроме того, во время набора самолетом высоты «реактивная струя от двигателя повредила еще один дом».

Столкновение повредило шасси самолета, ему пришлось совершить аварийную посадку в международном аэропорту Энтеббе в соседней Уганде.

ВПП выразила соболезнования семье погибшей девочки, пообещав любую помощь. Идет расследование случившегося.

Национальность экипажа самолета не указывается, однако уже известно, что инцидент случился с белорусским бортом компании «Трансавиаэкспорт».

НАДВОР'Е

## Лета вяртаецца!

*У чацвер сіноптыкі абяцаюць да +28*

Умерана цёплае і без ападкаў надвор'е чакаецца ў Беларусі на бягучым тыдні. *"Цыклон, які прынёс непагодлівае, дажджлівае і ветранае надвор'е, пакідае нашу краіну,* – паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды **Дзмітрый Рабаў**. – *Яго месца зойме антыцыклон, які і будзе вызначаць надвор'е ў рабочыя дні».*

З аўторка па пятніцу ў Беларусі будзе пераважна без ападкаў. У аўторак і сераду +17…+24°C. У чацвер ноччу чакаецца ад +5°C да +12°C, днём +19…+26°C, па паўднёвым захадзе – да +28°C. У пятніцу ноччу будзе +8…+14°C, днём – +20…+27°C. У выхадныя дні надвор'е будуць вызначаць вобласць паніжанага атмасфернага ціску і больш вільготная паветраная маса з Заходняй Еўропы. У асобных раёнах краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, ноччу і раніцай слабы туман. У суботу тэмпература паветра ноччу складзе +8…+14°C, днём – +19…+26°C. У нядзелю ноччу будзе +8…+14°C, днём – +17…+24°C.

ПАЛІТКУХНЯ

## Вештард сыходзіць…

Адбудзецца гэта на чарговым з'ездзе Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), які пройдзе ў 2018 годзе.

*«Я не маю права больш балатавацца на пасаду старшыні. У адпаведнасці са статутам партыі адзін чалавек не можа быць старшынёй больш як тры тэрміны. Я выконваю статут і не буду нічога рабіць, каб унесці ў яго змены»,* – растлумачыла яна БелаПАН.

Вештард паведаміла, што ёсць шэраг членаў партыі, якім яна сімпатызуе, і не выключана, што на з'ездзе вылучыць каго-небудзь з іх на пасаду старшыні. *«У мяне ёсць розныя задумкі, але я не хачу іх агучваць загадзя»,* – адзначыла яна.

НУ І НУ!

## Мікалай Статкевіч правядзе за кратамі 20 сутак

Як вядома, 26 жніўня яму далі 15 сутак пазбаўлення волі за арганізацыю шэсця ў цэнтры Мінска 3 ліпеня. Паколькі афіцыйнага дазволу на акцыю не было, ды ён яго і не прасіў, то суд палічыў гэта парушэннем закона аб масавых мерапрыемствах.

Паводле слоў Марыны Адамовіч, жонкі палітыка, 28 жніўня М.Статкевічу паведамілі, што давядзецца правесці за кратамі дадаткова яшчэ 5 сутак. За тое, што ён браў удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве – збор ля спецразмеркавальніка на Акрэсціна, калі 7 чалавек разгарнулі і трымалі бел-чырвона-белае палотнішча.

Такім чынам, Мікалаю Статкевічу ніякім чынам не ўдасца правесці запланаваную на 8 верасня акцыю пад умоўнай назвай "Расійскай агрэсіі – не!".

**Сяргей КРЫВАЛЬ.**

# Беларусь – Егіпет

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА: «Беларусь выканае ўсе дасягнутыя з Егіптам дамоўленасці»

Аб гэтым Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка заявіў на сустрэчы з міністрам замежных спраў Егіпта Самехам Хасанам Шукры.

*«Яшчэ раз хачу пацвердзіць: мы зробім усё, аб чым дамаўляліся. Усё будзе залежаць ад вас, егіпцян. Мы настолькі хутка можам разгарнуцца ў Егіпце, наколькі на то будзе ваша жаданне»,* – адзначыў кіраўнік беларускай дзяржавы.

А.Лукашэнка перадаў запрашэнне егіпецкаму калегу наведаць Беларусь у любы зручны для яго час.

СКАЗАНА!

## Уладзімір МАКЕЙ: «Без удзелу Егіпта не могуць быць забяспечаны стабільнасць і мір на Блізкім Усходзе»

Гэта было сказана ўчора пасля сустрэчы міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея з егіпецкім калегам Самехам Хасанам Шукры.

«Беларусь заўсёды разглядала Егіпет як важнага рэгіянальнага і міжнароднага гульца. Без яго немагчыма ўрэгуляванне канфліктаў у рэгіёне», – падкрэсліў Макей.

Паводле яго слоў, падчас сустрэчы кіраўніка МЗС Беларусі і Егіпта абмяркоўвалі «прынцыпы, на якіх гэтыя крызісы маглі б быць урэгуляваны». Макей адзначыў, што пры вырашэнні праблемных пытанняў на Блізкім Усходзе важна забяспечыць прынцып тэрытарыяльнага суверэнітэту дзяржаў, а таксама важна рэалізаваць урэгуляванне крызісаў на аснове тых дакументаў, якія былі распрацаваны ў сістэме ААН.

У сваю чаргу Шукры заявіў, што рэгіён Блізкага Усходу «стаў сведкам складанай і супярэчлівай сітуацыі канфліктаў у Сірыі і Лівіі». «Егіпет працуе ў гэтым кірунку. Мы разумеем, што немагчыма ваеннае рашэнне для аднаўлення стабільнасці ў рэгіёне. Гэта можа адбыцца толькі праз дыялог і перамовы, – сказаў ён. – Мы таксама заклікаем да кансалідацыі намаганняў міжнароднай супольнасці для барацьбы з тэрарызмам».

**Таццяна КАРАВЯНКОВА.**
(БелаПАН.)

СОБЫТИЕ

## БЖД начала онлайн-продажу билетов с электронной регистрацией на все транзитные международные поезда

На сайте Белорусской железной дороги www.poezd.rw.by началась продажа билетов с электронной регистрацией на все транзитные международные поезда, курсирующие в дальнее зарубежье. Такая информация размещена на сайте БЖД, сообщает БЕЛТА.

Также появилась возможность приобретать билеты с электронной регистрацией на внутренние поезда других железнодорожных администраций. Покупка билета через интернет с электронной регистрацией позволяет пассажиру осуществлять поездку без оформления проездного документа в кассе. Такие поезда отмечены на сайте значком ЭР.

При посадке в поезд пассажир должен предъявить указанный в заказе документ, удостоверяющий личность. Для проезда в поездах международного сообщения нужен еще и бланк электронного билета, распечатанный на листе бумаги формата А4. *«В целом онлайн-система продажи проездных документов Белорусской железной дороги продолжает набирать популярность»,* – говорится в сообщении. В январе–июле через интернет было продано 1,17 млн билетов, что на 28% больше, чем за аналогичный период прошлого года.

СТАЛА ВЯДОМА...

## Кар'ерныя самазвалы «БелАЗ» будуць куплены за крэдыт Еўразійскага банка развіцця

Так, Еўразійскі банк развіцця выдзяляе 91 мільён долараў расійскаму экспарцёру вугалю "ТрансФін-М" на закупку самазвалаў Беларускага аўтазавода, што ў Жодзіне.

"ТрансФін-М" з'яўляецца сталым партнёрам "БелАЗа".

**Галіна СУПРУНЧУК.**
*г.Жодзіна.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# …Хотя войны мне тоже не хочется

Три года я работал в Киеве и могу точно сказать: украинцы изменились. Их интересует то, что происходит у них дома, а не за восточной границей. Их волнует судьба собственных семей, а не геополитические мифы. Да, идет война. Но это не мешает им вдохновенно петь гимн своей страны – всем, вместе, начиная от президента и заканчивая школьниками. Я могу это подтвердить, потому что слышал пение площади не раз.

Российские телевизионные «звезды», чей свет исчезает, как только ты отключаешь канал, издеваются над словом «незалежність» – «независимость»: мол, вы независимые, потому что от вас ничего не зависит. И мы это слышим каждый день. А для украинцев оно обрело совершенно конкретный смысл. Ничего не зависит от тех, кто ничего не делает. А судьба каждого человека и его семьи зависит прежде всего от него самого. Поэтому они не перекладывают эту ответственность на других, не ищут себе «батек», «мамок». У них есть одна «ненька Украина» – на всех. Вот о ней они думают. И гимн их – об Украине. И история этого гимна восходит к девятнадцатому веку, когда и надежды-то никакой на независимость и государственность не было.

Ах, кричат нам российские пугалы из телевизора, у них растут цены на коммуналку! А у вас?

Ах, там люди не могут купить квартиру! А вы считаете, что у вас доступное жилье?

Ах, какие там дорогие лекарства!

И тут мы в Беларуси понимаем, что нам врут, потому что каждая семья, чьи знакомые ездят в Украину, обязательно просит привезти оттуда необходимые лекарства.

Да, украинцы дорого платят за свою независимость. Очень дорого. Жизнями солдат. Огромным куском территории. Реальным ростом цен. Но они знают, за что они платят. И понимают, что это в конце концов закончится. Хотелось бы, чтобы раньше, но это – как Бог даст.

А за что платите вы, россияне? За то, чтобы ваши олигархи продолжали опустошать Россию? За то, чтобы в глухой смоленской деревне селяне жили, как в средние века?

А за что платим мы в Беларуси? За повышение страхового стажа, необходимого для получения пенсии? За повышение, которое затронуло даже тех, кому считанные годы до пенсии оставались? За что платим мы бесконечным финансированием «бесплатной школы», когда при этом отправить ребенка в школу становится всё дороже, а зарплата у учителей вовсе не вырастает пропорционально ценам?

Быть независимыми – это значит отвечать самим за собственный выбор и за свою судьбу. Признавать, что отвечаешь за себя только ты сам. Вот украинцы это понимают. А спросите у вечно ноющего и жалующегося на судьбу белоруса, почему жизнь его уже столько лет складывается так, а не иначе? И услышите в ответ:

– Так от нас же ничего не зависит…

(Вариант: – Нас обманули…)

А когда спросишь, почему они продолжают это терпеть, то опять отвечают:

– Так будет еще хуже…

И – уже в конце:

– Лишь бы не было войны. А остальное – потерпим…

В общем, значение слова «независимость» мы с братьями-украинцами понимаем как-то по-разному. И хотя войны мне тоже не хочется, но отвечать за то, что мы все расплачиваемся, власть тоже не дает. Ни власть, ни те, кто рядом с ней. Может быть, поэтому мне ближе украинское понимание. Там, по крайней мере, никто и не ждет ответов, а ищет их сам.

Народная Воля http://www.nv-online.info 29 ЖНІЎНЯ 2017 г.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# 200 тысяч долараў для дачкі «экс-губернатара»



Ужо 17 гадоў у Гродне дзейнічае фірма "Еўра-Пласт". Яе асноўнай прадукцыяй, магчыма, сам таго не ведаючы, карыстаецца фактычна кожны беларус, калі купляе малако ці безалкагольныя напоі. Таму што вырабляе "Еўра-Пласт" пластыкавыя вечкі для бутэлек, якасць якіх прызнана ў свеце. Яна нават выйграла тэндар на пастаўкі сваёй прадукцыі кампаніі, якая з'яўляецца адным з сусветных брэндаў.

Але размову я хачу павесці не пра поспехі невялікага сацыяльна арыентаванага прадпрыемства са штатам 60 супрацоўнікаў, палову з якіх складаюць людзі з рознай груп інваліднасці, а пра тое, як гэтай фірме моцна пашкодзіў у 2015 годзе адзін "бізнес-праект" (чытай – махлярства) коштам у 200 тысяч долараў, крымінальная справа па якім цягнецца да сённяшняга дня. Цікавасці гэтай справе надае той факт, што ў ліку абвінавачаных – Надзея Шабанава, дачка былога "губернатара" Гродзенскай вобласці Уладзіміра Саўчанкі, якая збегла з Беларусі і цяпер знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку.

Падрабязнасці гучнай справы "Народнай Волі" распавёў вядучы юрыст кампаніі "Еўра-Пласт" **Яўген Сіткевіч.**

## Ад просьбы пазычыць грошы да «бізнес-праекта»

У 2015 годзе да дырэктара "Еўра-Пласта" Аляксандра Снарскага звярнуўся яго знаёмы Сяргей Саркісаў з просьбай пазычыць грошы. Атрымаўшы адмову, ён, каб усё ж атрымаць неабходную яму суму, прапанаваў паўдзельнічаць у сумесных праектах. І для пацвярджэння сур'ёзнасці намераў 5 мая прыехаў на сустрэчу разам з Надзеяй Шабанавай, прадставіўшы яе як дачку Уладзіміра Саўчанкі. Гэта быў істотны факт, які садзейнічаў усталяванню даверу. Тады нават думкі не магло ўзнікнуць пра нейкі падман. Але, як высветлілася, гэта была памылка. Да таго часу Шабанава ўжо паспела падмануць гандлёва-інвестыцыйную кампанію "Генеральныя фінансы" на 500 тысяч долараў. Прычым вырашальным на пачатку іх сумеснай дзейнасці яшчэ ў 2014 годзе стаў таксама той факт, што яна дачка "экс-губернатара" і спасылалася на магчымасць удзелу ў праекце свайго бацькі, на той час генеральнага дырэктара агракамбіната "Мачулішчы". Менавіта ў выніку гэтага махлярства, паводле слоў дырэктара "Генеральных фінансаў" Аляксея Стадніка, фірма на сёння фактычна спыніла існаванне, а яе супрацоўнікаў прыйшлося звольніць.

Падчас размовы Саркісаў і Шабанава прапанавалі некалькі ідэй, у тым ліку – нават звязаных з газам. Але "Еўра-Пласт" цікавілі перш за ўсё пастаўкі сыравіны з Казані, плён ад якіх чакаўся практычна адразу. У сувязі з гэтым была прапанавана вельмі прыгожая схема, якая ў выпадку поспеху стварала магчымасці не толькі ўмацавання, але і пашырэння прысутнасці беларускай кампаніі на расійскім рынку.

Спадарыня Шабанава адзначыла, што ў яе маюцца знаёмыя ў Казані, якія якраз займаюцца пастаўкамі патрэбнай сыравіны – поліэтылену. У гэтым не было нічога асаблівага, паколькі кошт прапанаванай сыравіны не надта адрозніваўся ад таго, па якім яго купляў "Еўра-Пласт". Але ў дадатак Саркісаў, які валодаў фірмай па перавозцы грузаў, гарантаваў зніжэнне лагістычных страт. У выніку зніжаліся сабекошт і адпускная цана прадукцыі "Еўра-Пласта", а значыць, павялічваліся магчымасці яе канкурэнтаздольнасці.

## Аванс і непрадбачаныя складанасці

Саркісаў і Шабанава прапанавалі заключыць дамову з расійскай фірмай "АгроИнвест", заснавальнікамі якой з'яўляліся Стэфан Ярашэвіч і Наталля Фралова, сяброўка дачкі гродзенскага "экс-губернатара". Падчас размовы дырэктара "Еўра-Пласта" запэўнівалі, што фактычным кіраўніком фірмы з'яўляецца менавіта Надзея Шабанава і фірма цалкам падкантрольна ёй.

"АгроИнвест" праверылі па адзіным дзяржаўным рэгістры. 5 мая 2015 года заключылі кантракт, а Шабанава для забеспячэння абавязацельстваў заклала ўласную кватэру ў самым цэнтры Мінска (па вуліцы Беларускай) плошчай больш за 200 м². Пасля гэтага 7 мая расійскай кампаніі пералічылі авансавы плацеж для закупкі сыравіны – 200 тысяч долараў. Заставалася толькі чакаць, калі яна паступіць.

Але 2 чэрвеня 2015 года прыйшоў ліст ад Ярашэвіча, у якім паведамлялася, што "ў сувязі з непрадбачаным спыненнем вытворчасці ТАА "АгроИнвест" не можа выканаць абавязацельствы па пастаўцы тавару" і просіць працягнуць тэрмін пастаўкі першай партыі на 180 дзён. Гэты ліст не выклікаў падазрэнняў – на вытворчасці часам здараецца "форс-мажор". Таму проста была працягнута знешнегандлёвая дамова. Яе, дарэчы, "Еўра-Пласту" прыходзіцца працягваць да гэтага часу, паколькі дамова аб пастаўцы сыравіны не была закрыта, а грошы за яе былі заплачаны за межы Беларусі. Калі не працягваць пагадненне, можна атрымаць штраф да 20% ад памеру авансу (або 40 тысяч долараў).

Аднак паступова адносіны з "АгроИнвестом" ускладняліся. "Еўра-Пласт" паспрабаваў вярнуць выплачаны аванс, напісаўшы патрабаванне на вяртанне грошай. Аднак нічога не адбылося.

Тады "Еўра-Пласт" падаў лісты аб узбуджэнні крымінальнай справы, накіраваўшы іх у Генеральную пракуратуру і КДБ. Але папярэдне паспрабавалі звязацца з Саркісавым і Шабанавай і давесці да іх усю сур'ёзнасць моманту.

29 лістапада 2015 года быў адпраўлены зварот на ўзбуджэнне крымінальнай справы. Спадар Саркісаў спрабаваў запалохаць Снарскага магчымасцю пачаць крымінальную справу супраць яго прадпрыемства: "Павер, каб папоўніць бюджэт за кошт твайго прадпрыемства, будуць рыць, пакуль не раскапаюць усё да дробязяў!!!"

8 снежня 2015 года судовыя выканаўцы паведамілі, што на маёмасць Шабанавай накладзены арышт. У тым ліку на мінскую кватэру, закладзеную пад авансавы плацеж. Яна патлумачыла, што ніякай праблемы ў гэтым няма, а рашэнне суда выклікана невяртаннем аднаго з крэдытаў. Вось пасля гэтага ў "Еўра-Пласце" ўзнікла сур'ёзная заклапочанасць. У дадатак высветлілася, што мінская кампанія "Генеральныя фінансы" падала ў верасні 2015 года заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы на спадарыню Шабанаву за махлярства, у сувязі з чым вялася праверка, якая падыходзіла да ўзбуджэння крымінальнай справы. У дадатак усплылі звесткі і яшчэ пра аднаго чалавека, якому Шабанава павінна была 100 тысяч долараў.

Праўда, спачатку справа тая скончылася "міравой" і абяцаннем усё вярнуць. У выніку гэты выпадак у далейшым быў аб'яднаны са справай "Еўра-Пласта".

## Эпапея з узбуджэннем крымінальнай справы

Зварот аб пачатку справы быў накіраваны яшчэ 29 лістапада 2015 года, але толькі пасля доўгай праверкі 12 жніўня 2016 года следчы 2-га аддзялення Гродзенскага міжраённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь маёр А.С.Войшніс узбудзіў крымінальную справу па частцы 4 артыкула 209 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь супраць Шабанавай і Ярашэвіча, якія, "маючы намер на авалоданне грашовымі сродкамі", "загадзя не маючы намеру выконваць узятыя на сябе абавязацельствы па кантракце", "у сувязі з наяўнасцю ў ТАА "АгроИнвест" крэдыторскай запазычанасці па раней заключаных дамовах шляхам падману схілілі дырэктара ТАА "Еўра-Пласт" А.В.Снарскага да заключэння ўзгаданага кантракта, пасля чаго наўмысна, з карысных памкненняў, авалодалі атрыманымі … у якасці перадаплаты за ўзгаданы тавар грашовымі сродкамі ў суме 200.000 долараў ЗША, што па курсе Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусі склала 3.141.400.000 недэнамінаваных рублёў і адпавядае 17.452 базавым велічыням, прычыніўшы тым самым ТАА "Еўра-Пласт" маёмасную шкоду ў асабліва буйным памеры".

Здавалася, што махляры будуць прыцягнуты да адказнасці ў адпаведнасці з законам. Але…

Упраўленне працэсуальнага кантролю Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці неўзабаве запатрабавала матэрыялы і адмовіла ва ўзбуджэнні справы, накіраваўшы іх у пракуратуру Гродна. Тая ж, вывучыўшы матэрыялы, адзначыла, што падстаў для ўзбуджэння справы дастаткова. Але зноў умяшалася Упраўленне працэсуальнага кантролю і накіравала матэрыялы ўжо ў Пракуратуру Гродзенскай вобласці. Адтуль прыйшоў адказ: падстаў для ўзбуджэння справы дастаткова. Але чарговы раз Упраўленне працэсуальнага кантролю не пагадзілася і накіравала матэрыялы ўжо пракурору Гродзенскай вобласці Віктару Марозу.

Толькі пасля накіравання 28 жніўня 2016 года звароту ад памочніка прэзідэнта – галоўнага інспектара па Гродзенскай вобласці Сяргея Раўнейкі ранейшыя рашэнні Следчага камітэта па вобласці былі адменены і справа была вернута 20 верасня для расследавання. Яна была перададзена ва ўпраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці "для выканання неабходных следчых дзеянняў" і вырашэння пытання аб аб'яднанні з мінскай справай супраць Шабанавай і Ярашэвіча.

Як бачым, некалькі разоў "Еўра-Пласту" адказвалі адмовай ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Толькі зварот да памочніка прэзідэнта выправіў сітуацыю. Дзеянні ж Упраўлення працэсуальнага кантролю Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці па зацягванні справы пакідаюць пытанні.

## Абавязана толькі з'яўляцца па выкліках

Нават пасля таго, як следчыя дзеянні былі праведзены ў поўным аб'ёме, Следчы камітэт, у тым ліку ў Мінску, не прымяніў у дачыненні да Шабанавай меры стрымання. Яна была абавязана толькі з'яўляцца па выкліках, нягледзячы на дзве распачатыя супраць яе справы, у якіх разам фігуравала сума амаль у 1 мільён долараў. Пры гэтым не было нават запатрабавана падпіска аб нявыездзе.

Шабанава заставалася падазронай, абвінавачанне ёй не прад'яўлялася. Пачаліся вочныя стаўкі, падчас якіх яна выставіла версію, што грошы "Еўра-Пласта" – не больш як пазыка. Такім чынам яна спрабавала абвінаваціць кіраўніцтва кампаніі ў незаконным вывадзе грошай і прымусіць адклікаць справу. Але яна, магчыма, нават па няведанні, не ўлічыла тое, што спадар Саркісаў ужо спрабаваў дзейнічаць такім чынам у лістападзе 2015 года.

Заўважым: бацька Надзеі Шабанавай – Уладзімір Саўчанка – звярнуўся да Аляксандра Снарскага, прапанаваў выплаціць за дачку 40 тысяч долараў і пасля працягнуць вырашэнне пытання. Дарэчы, гэта ўсё ў межах заканадаўства – "выкананне абавязацельстваў трэцяй асобай". Аднак усё засталося толькі на словах, не дайшоўшы да рэальнага вяртання 200 тысяч долараў.

## Справа «аб паклёпе» і чарговы падман

6 кастрычніка на інтэрнэт-рэсурсе "Анлайнер" з'явіўся матэрыял па гэтай справе, пасля чаго Надзея Шабанава падала заяву ў суд "аб абароне гонару, годнасці, дзелавой рэпутацыі і пакрыцці маральнай шкоды". Але на пасяджэнні яна так і не з'явілася, спаслаўшыся на "дрэнны стан здароўя". У якасці сведкаў былі прадстаўнікі некалькіх кампаній, якія пацвердзілі, што Шабанава прапаноўвала ім "бізнес-праекты", пазіцыянаваўшы сябе ўладальніцай "АгроИнвеста". 17 жніўня 2017 года суд Маскоўскага раёна Мінска пастанавіў пакінуць заяву без разгляду.

У працэсе крымінальнай справы 17 лістапада 2016 года ад імя Аляксандра Снарскага было накіравана хадайніцтва аб змяненні меры стрымання для Н.Шабанавай і С.Ярашэвіча на ўтрыманне пад вартай. Але 20 лістапада ад імя начальніка Гродзенскага СК В.К.Федасенкі прыйшла адмова. Падстава: "нягледзячы на тое, што Шабанава Н.У. і Ярашэвіч С.А. падазраюцца ў здзяйсненні цяжкага злачынства, яны маюць пастаяннае месца жыхарства і працы, заўсёды з'яўляюцца па выкліках органа папярэдняга следства, не перашкаджаюць папярэдняму расследаванню, раней не асуджаны і маюць на ўтрыманні непаўнагадовых дзяцей", а таму, маўляў, няма неабходнасці браць іх пад варту.

І гэта нягледзячы на тое, што Шабанава з Саркісавым спрабавалі падмануць следства. Спрабуючы выкруціцца, яны даслалі дакументы, згодна з якімі ў іх была дамова з іншай кампаніяй – "Еўра-дом" – на пастаўку сыравіны. Былі нават прадастаўлены плацяжы і дамова. Толькі адна праблема, на якую наўрад ці звярнуў бы ўвагу неспецыяліст: "Еўра-дом" гандлюе шкловатай, з якой вечкі для бутэлек не зробіш, а не поліэтыленам. Следчыя своечасова заўважылі падман.

## Грошы з Кіпра

У сакавіку 2017 года на рахункі "Еўра-Пласта" пачалі прыходзіць грошы з Кіпра: 20.000, 25.000 долараў… У якасці плацельшчыка выступаў "KOZALL SERVICES LIMITED". Прызначэнне грошай было прапісана як "AGREEMENT 1 DD 28.02.2017". Але, каб іх прыняць, былі неабходны прававыя падставы. За тлумачэннем спрабавалі звярнуцца да Шабанавай. Але яна не здымала тэлефон. Яе сяброўка Фралова сказала, што гэта плата замест "АгроИнвеста". Але якая падстава? На скрыню гродзенскай фірмы было даслана пагадненне, згодна з якім "Козал", быццам калектарная фірма, набывала абавязацельствы "АгроИнвеста" ў "Еўра-Пласта" і плаціла за гэта 200 тысяч. Але нідзе ў дамове не было ні подпісаў, ні пячатак кампаніі "АгроИнвест". Да таго ж пры набыцці абавязацельстваў у "Еўра-Пласта" ствараўся аб'ект падаткаабкладання – невытворчыя даходы, з якога фірма павінна была заплаціць падатак. Пры тым што гэта і так былі іх грошы.

"Еўра-Пласт" мог прыняць грошы, што ім і раілі зрабіць па выніках кансультацый прадстаўнікі Нацыянальнага банка і падаткавікі. Але цяжкасці былі ў нюансах. А менавіта ў іх уся соль. І як вынік – магчымае парушэнне закона.

Да таго ж, калі б грошы былі прыняты, "Козал" спакойна мог аспрэчыць пагадненне і вярнуць свае грошы. А ў выніку Шабанава і іншыя ўдзельнікі вызваляліся ад крымінальнай справы.

Таму ўсе атрыманыя з Кіпра грошы былі вернуты назад з пазнакай "памылкова залічаны".

## Замест эпілогу

У "Еўра-Пласта" маецца інфармацыя, што Шабанава цяпер знаходзіцца ў Кіеве. 31 ліпеня 2017 года кіраўніцтва фірмы звярнулася з хадайніцтвам ва ўпраўленне Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па г.Мінску з просьбай аб аб'яве Шабанавай у міжнародны вышук па лініі Інтэрпола. Аднак 14 жніўня быў накіраваны адказ, што Шабанава знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку.

200 тысяч долараў "Еўра-Пласта" пакуль што плакалі.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

*Гродна.*

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Пяць гадоў калоніі

Суд Лунінецкага раёна вынес прысуд участковаму інспектару міліцыі мясцовага РАУС за ўчыненне ў п'яным выглядзе ДТЗ, у якім пацярпела пасажырка. Былы міліцыянер атрымаў пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Таксама на пяць гадоў ён пазбаўлены права кіравання транспартнымі сродкамі і на такі ж тэрмін – права займаць пасады прадстаўніка ўлады ў органах МУС.

Здарэнне адбылося 24 мая прыблізна ў 0.35 на вуліцы Кастрычніцкай у Лунінцы. Аўтамабіль «Рэно-Меган-Сцэнік», за рулём якога быў участковы інспектар міліцыі, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з металічнай агароджай ля пуцеправода. Цяжкія цялесныя пашкоджанні атрымала 18-гадовая дзяўчына, якая ехала на заднім сядзенні і не была прышпілена рэменем бяспекі.

У парах выдыханага кіроўцам паветра было 1,7 праміле алкаголю. Прысуд яшчэ не ўвайшоў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

СТАЛО ИЗВЕСТНО...

# На свободу вышел Коля Солдат

Как стало известно из неофициальных источников, на свободу после длительного нахождения в колонии вышел один из бывших лидеров криминального мира Беларуси Николай Солдатенко, он же Коля Солдат.

Солдатенко задержали летом 2007 года в Подмосковье, а в 2009 году Верховный суд Беларуси приговорил его к 11 годам лишения свободы с конфискацией имущества и отбыванием наказания в условиях усиленного режима.

По делу Солдат проходил как активный участник пресловутой банды Морозова. Ему инкриминировалась ст.285 УК (создание и участие в преступной организации). Однако по этой статье дело в отношении авторитета прекратили в связи с истечением срока давности. Сел Коля Солдат по ч.3 ст.208 УК – за вымогательство. Вместе с ним были осуждены еще четыре человека.

На свободу 63-летний Солдатенко вышел на год раньше. Возможно, что к нему была применена одна из прошедших амнистий. Хотя верится в это с трудом.

По некоторым сведениям, с первых месяцев заключения арестант, что называется, проявил характер и быстро заработал себе тюремный режим. Как минимум три года Солдат провел в Гродненской тюрьме №1. Досиживал свой срок Солдатенко в Горках в ИК-9, колонии строгого режима.

До 1998 года Коля Солдат был «смотрящим» за Гомельской областью и, по данным оперативников, возглавлял преступную группу, осуществлявшую контроль за сделками среднего бизнеса, в том числе на рынке нефтепродуктов, а также незаконными операциями на ПО «Кристалл».

Говорят, что с его участием статус «смотрящего» за Гомелем получил Сергей Морозов, банда которого в истории Беларуси оставила самый кровавый след. На совести «морозовских» – два десятка убийств и сотни других тяжких преступлений. Всего было осуждено около 50 человек. Три лидера банды – Сергей Морозов, Валерий Горбатый и Игорь Данченко – были приговорены к расстрелу. Приговор привели в исполнение в 2008 году.

В 2003 году на Николая Солдатенко было совершено покушение. По его душу из России приезжал нанятый киллер. Авторитет отделался легкими ранениями, после этого он ушел в тень, перебрался в Подмосковье, где занимался легальным бизнесом.

Часть белорусского криминалитета причисляла Солдата к ворам в законе. Однако, несмотря на свою авторитетность в криминальном мире и участие в воровских сходках, статус «законника» был не про него. Одни говорят, что из-за судимости за изнасилование, другие утверждают, что Солдатенко служил в армии, а это противоречит воровским понятиям.

Пока Коля Солдат сидел, в белорусском криминальном мире произошел раскол на два противоборствующих лагеря из-за «коронации» в Москве в 2011 году гомельчанина Александра Кушнерова, он же Саша Кушнер.

Сложно сказать, насколько сведения соответствуют действительности, но из-за толстых стен гродненской тюрьмы просочилось, что Коля Солдат не признал Кушнера и встал на сторону его противников из числа воров в законе Тимохи, Галея и так называемой «дубайской четверки».

Тимоху застрелили, Галей отбывает 10-летний срок в Горках, двое из «четверки» – Паштет Минский и Медвежонок Гомельский – также в местах известных, Муму Слуцкий освободился, но находится под надзором, Лебедь Борисовский пока на воле где-то в ЕС. Саша Кушнер уехал на ПМЖ в Турцию, изредка посещает Беларусь.

Проще говоря, все более-менее значимые белорусские криминальные авторитеты либо локализованы, либо стоят в очереди на посадку, а потому затевать кровавые разборки на тему «кто в РБ главный вор» им не с руки.

(«БП».)

ФОТАФАКТ

# У Полацку з'явіўся новы помнік

Мемарыял «Полацк – калыска беларускай дзяржаўнасці» знаходзіцца недалёка ад Сафійскага сабора. Урачыстае адкрыццё адбудзецца падчас святкавання Дня беларускага пісьменства – 2 верасня.

Вышыня помніка – 5,5 метра. На ім выяўлены гістарычныя асобы, а таксама выбіты даты важных для Беларусі падзей.

**Васіль КОРЗУН.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
29 ЖНІЎНЯ 2017 г.

КАРТИНА ЖИЗНИ

# Милиция и справедливость

*Не так давно «Народная Воля» уже рассказывала о Николае АНИЩЕНКО из Витебска. В мае прошлого года с его дачного участка украли мед и повредили улей. За помощью пчеловод обратился в милицию. Более года Николай Федорович ходил по кабинетам в надежде на справедливость и поиск виновных. Но общение с представителями правоохранительных органов для пострадавшего пенсионера закончилось судом. О том, как с обычными гражданами в витебском регионе работают люди в погонах, Николай Анищенко рассказал «Народной Воле».*



## С чего все начиналось

Бывший строитель, а ныне пенсионер Николай Федорович ранней весной уезжает из Витебска в Городокский район. В деревне Ковалевцы мужчина живет до поздней осени: занимается садом, огородом и пасекой.

Утром 17 мая 2016 года он обнаружил, что один из ульев лежит на земле.

*– Сначала я подумал, что стойки, которые держат улей, погрузились в землю, из-за чего он и упал,* – вспоминает местный житель. *– Но нет: улей был перевернут, крышка валялась на земле, рамки сломаны, меда нет. Поняв, что это грабеж, я сразу позвонил в милицию.*

На вызов приехал сотрудник районного отдела, составил протокол, выслушал объяснения и уехал. Возможно, на этом бы все и закончилось, если бы не стремление принципиального пенсионера найти виновных.

*– Я человек не наивный, знаю, в какой стране живу,* – говорит Николай Федорович. *– Но надежда хоть на минимальные поиски у меня была. Я сказал сотруднику, что не хватает нескольких медовых рамок. Он ответил: «Забрали ночью». И уехал. Может, милиционер не хотел промочить ноги, боялся простудиться, так как была роса, но и десяти шагов в сторону он не сделал. А мне ничего не оставалось, как искать самому. И в 15–20 метрах от участка я нашел несколько рамок, пошел дальше – обнаружил оставшиеся.*

Скорее всего, на участок к дачнику залезли безработные алкоголики, которых сейчас полно в деревнях, и украли мед, чтобы обменять его на спиртное. И не обязательно быть следователем, чтобы это понять.

Обнаружив украденные рамки, Николай Анищенко в тот же день еще раз позвонил в Городокский РОВД.

*– Набираю и спрашиваю: какие мои действия?* – продолжает рассказывать пострадавший пенсионер. *– Может, отпечатки пальцев снимают в таких ситуациях или другие оперативные действия проводят? Реакции – никакой.*

*Собирая брошенные рамки для ремонта, я заметил полосу примятой травы, которая шла через соседский огород к водоему. А я ведь бывший пограничник с линейной заставы, что делать в подобных ситуациях – знаю. Заметил, что след расходится, – значит, было два человека. Прошел около километра и на песке наткнулся на четкие отпечатки обуви. Я, как учили во время срочной, поставил вешку и опять позвонил в милицию.*

К слову, Николай Федорович служил в том пограничном отряде, в котором проходил срочную и будущий президент Республики Беларусь А.Лукашенко. Правда, служили они в разное время. Анищенко отдавал долг Родине в Бресте в период с 1970-го по 1972 год, а Лукашенко – с 1975-го по 1977 год.

В тот майский день к бывшему пограничнику никто не явился. Приезда специалистов из Городка он так и не дождался, а найденные им следы через некоторое время, понятно, смыло дождем.

Конечно, ни меда, ни грабителей никто не нашел, а бумажная волокита, в которую ввязался пенсионер, затянулась более чем на год. Никакой надежды на поиск виновных у мужчины уже не было, но хотелось посмотреть, есть ли предел равнодушию и наплевательскому отношению к обычным людям со стороны милиции.

## Публикация в газете

Через некоторое время Николай Анищенко решил поинтересоваться ходом расследования. Вряд ли проводилась какая-то работа, но на обращение пенсионера в этот раз все-таки ответили.

*– После моих многочисленных звонков и спустя месяц первым приехал старший следователь Городокского районного отдела Следственного комитета подполковник Афанасьев,* – вспоминает Анищенко. *– Он примерно моего возраста. На замечание, почему на мое заявление отреагировали спустя месяц – это же прямое нарушение закона, он ответил: мол, я уже на пенсии, и мне нечего бояться.*

Все жалобы и обращения Анищенко в вышестоящие инстанции не давали результата. В то же время чувствовалось, что он, неугомонный, начал раздражать местных представителей закона. Кое-кто из сотрудников милиции открыто говорили, что подобных дел уйма, подумаешь, украли пару рамок меда!..

Ситуация изменилась после того, как несколько месяцев назад в «Народной Воле» был опубликован материал «Как однополчанин президента помощи от милиции добивался».

*– До публикации начальник УВД Витебского облисполкома генерал Сенько в ответах на обращения дважды называл меня «уважаемым»,* – с иронией говорит собеседник. *– Но при этом он сообщил, что сотрудниками Городокского РОВД нарушений допущено не было. То есть правильно делали, что на мои звонки не реагировали, ознакомиться с обнаруженными уликами не выезжали. Но после статьи в газете в район из Витебска прислали подполковника Лавренова как проверяющего.*

Анищенко шутит: получив ответ в третий раз, оказался в полной растерянности – кому верить? Новое письмо кардинально отличалось от предыдущих.

*– Мое заявление внимательно рассмотрели,* – продолжает с улыбкой говорить Николай Федорович. *– Я по-прежнему «уважаемый». А со стороны сотрудников районного отдела уже все-таки были допущены нарушения действующего законодательства. Также были приняты меры дисциплинарного воздействия.*

*Но, как оказалось, взыскания раздавал начальник Городокского РОВД полковник Вороньков, который и создал всю проблему, правда, про себя он забыл. А «козлом отпущения» сделали капитана Иванова, который отказался продлять служебный контракт. Иванов приезжал на участок взвешивать медовые рамки после ограбления.*

Уголовное дело по факту пропажи меда приостанавливалось и возобновлялось 6 раз! И это при обещанном контроле со стороны управления Следственного комитета по Витебску. Никто из сотрудников, по словам Николая Федоровича, за бездействие наказан не был, а, наоборот, кое-кто пошел на повышение.

Сделаю маленькое отступление. Спустя три дня после ограбления участка Анищенко воры через окно залезли в соседний дом. Но, несмотря на приезд начальника местной милиции полковника Воронькова на место происшествия, виновных также не нашли.

По мнению Николая Федоровича, в том, что в деревне процветает воровство, нет ничего удивительного: при такой «активной» работе правоохранительных органов это вполне закономерно.

После случая с медом пенсионер был уверен, что ограбления в Ковалевцах продолжатся. Как говорится, результат не заставил себя долго ждать.

## Велосипедная история

Как я уже сказал, лето Николай Анищенко по традиции проводит в деревне. Коренных жителей в Ковалевцах осталось мало – в основном на сезон приезжают дачники из города.

Заниматься пчеловодством пенсионер начал по совету старого знакомого несколько лет назад, а теперь и вовсе не представляет жизни без этого ремесла. В июле 2017 года у Николая Федоровича возникли вопросы по работе с пчелами. Взяв велосипед, он поехал к более опытному коллеге в соседнюю деревню за советом.

*– По дороге встретил местного жителя,* – вспоминает Николай Анищенко. *– Перекинулись парой фраз и разошлись. Велосипед я припарковал около дороги и отошел на несколько минут по необходимости. Вернулся, а его нет. Зная всех живущих в деревне, зная, как работает милиция, сразу стал искать сам. Пошел к тому, кого встретил по дороге, прижал, он признался. Если бы сразу вернул велосипед, то обошлось бы без милиции. Но возвращать велосипед, который был уже спрятан, мужик не захотел. Иди, мол, ищи в кустах. Пришлось набрать «102». От дежурного я узнал, что в деревне есть участковый, который работает уже 2 года.*

По словам пострадавшего пенсионера, бригада специалистов приехала только после третьего звонка. По телефону Анищенко представился, отметив, что он хозяин того меда, грабителей которого милиция ищет до сих пор. Подобные напоминания и открытое недовольство работой, мягко говоря, не понравились представителям Городокского РОВД.

*– Я пояснил, что случилось, и передал нарушителя в руки сотрудников,* – рассказывает житель Ковалевцев. *– Письменно также указал, что воровство в деревне – это результат бездействия и отсутствия профилактики преступлений участкового – старшего лейтенанта Миронова и его начальства. На откровения участковый стал угрожать, что меня самого надо привлечь к ответственности (мол, почему оставил велосипед?), обещал проверить меня на вменяемость и так далее.*

Как объясняет Николай Анищенко, такого воровства в деревне никогда не было: трудно представить, чтобы раньше кого-то обокрали среди белого дня. Преступники уверены, что им никто не будет заниматься, поэтому все так и происходит.

История с похищенным велосипедом едва не закончилась для Анищенко задержанием. Когда пенсионер, у которого больные ноги, попросил сотрудников милиции подвезти его домой несколько километров, те грубо отказали.

*– Участковый сказал, что они не обязаны его подвозить: мол, доползешь,* – вспоминает тот день Николай Федорович. *– Но дело не в этом. Велосипед погрузили в багажник, а мне дали подписать бумагу, что он «изъят без фиксации». Я уточнил: что это значит? Оказалось, что забирают без фотографий, но это абсурд, так как при мне было сделано несколько фото. Я отказался подписывать, а стал требовать расписку об изъятии. Участковый сказал женщине-следователю, чтобы ничего не выдавала.*

В ситуацию вмешался майор-эксперт, который объяснил своим коллегам, что действия потерпевшего пенсионера вполне логичны и правомерны. Получив на руки расписку об изъятии транспортного средства, Анищенко пошел домой, где узнал, что к нему опять приезжала милиция.

*– Прибежали соседи: мол, что натворил?* – рассказывает Николай Анищенко. *– Приезжала милиция, искала... Вечером того же дня участковый Миронов приехал ко мне домой еще раз. Но не для того, чтобы вручить грамоту за помощь в поисках, а чтобы задержать и доставить в РОВД.*

**– Вам объяснили причину задержания?**

*– Никто ничего не объяснял, никаких бумаг не было. Когда я категорически запретил участковому заходить на территорию моего домовладения, он перезвонил начальнику. Получив команду на мое задержание (об этом он потом скажет на суде), старший лейтенант Миронов самовольно открыл калитку и подошел к двери. Я его в дом не пустил, а сотрудник включил диктофон и пытался меня спровоцировать, постоянно поправляя пистолет. Я понимал, что если он доставит меня в отделение (или я впущу его в дом), то может произойти все что угодно...*

Отказавшись проследовать в РОВД, пенсионер закрыл дверь дома изнутри, а милиционеру пришлось уехать, не выполнив приказ. После этого к Анищенко еще несколько раз под разными предлогами приезжали представители закона. Заметив сотрудников около калитки, пчеловод запирался в доме.

А спустя пару дней почтальон принес деревенскому жителю две повестки: как ответчику и как пострадавшему.

Иск на пчеловода из Ковалевцев был подан со стороны Городокского РОВД.

## Суд да дело

Николай Анищенко убежден, что инициатива в подаче на него в суд исходила от начальника районного отдела милиции полковника Воронькова.

На суде против Анищенко выступали участковый Миронов и следователь, которая выезжала на вызов об украденном велосипеде. Как оказалось, старший лейтенант Миронов и следователь Следственного комитета Миронова – семейная пара.

*– Во время заседания судья спросила: «Знаете ли, в чем вас обвиняют?»,* – говорит Николай Федорович. *– Я искренне ответил, что нет, не знаю. Оказалось, 6 июля мое поведение при сотрудниках милиции было непристойным. Во время судебного разбирательства супруги Мироновы обвинили меня в том, что я препятствовал проведению следственных мероприятий: вырывал документы из рук. И это при том, что их было четверо!*

*Было также сказано, что от меня постоянно идут жалобы на соседей. Я уточнил: «На кого конкретно я писал кляузы?» Назвать имена Миронов не смог. Действия милиции иначе как местью я назвать не могу...*

По дороге в суд Анищенко никаких надежд на благоприятный для себя исход дела не питал: судебной системе бывший строитель доверял ровно так же, как и милицейской.

В присуждении штрафа был практически уверен. Судебное заседание в Городке длилось три дня.

*– Я думал, что судье Елене Михайловне Вихотенко ничего не останется, как присудить мне хоть бы «минималку»,* – объясняет Николай Анищенко. *– Чтобы не злить руководство местного РОВД. Но к чести суда я был полностью оправдан. На мой взгляд, позиция суда заслуживает глубокого уважения, ведь это поступок. Кстати, на суд в качестве свидетеля был приглашен и похититель моего велосипеда. Надо признать, что, в отличие от людей в погонах, он не врал.*

Николай Анищенко шутит, что более чем за год общения с представителями власти сейчас может выступать экспертом. После переписки с областными начальниками мужчина имел право обратиться в Минск, что и сделал, но, конечно, все осталось без результата. Никто его не услышал.

*– Хочу, чтобы читатели «Народной Воли» правильно меня поняли,* – уточняет Николай Федорович. *– У меня нет цели оболгать милиционеров. Среди них, наверное, есть порядочные люди, но им труднее остальных сотрудников. Ведь так не должно быть: в деревнях царит воровство, и это при таком количестве милиции!.. Когда указываешь на недостатки, это начальникам в погонах не нравится, и они ищут повод, как бы тебя наказать. Возникает вполне логичный вопрос: за что народ кормит милицию?*

**– Николай Федорович, скажите: вам прислали бумагу, что виновные наказаны и так далее?..**

*– Ответ пришел благодаря публикации в вашей газете. Надо сказать, что с позицией «Народной Воли» считаются. Я, кстати, потом интересовался в управлении Следственного комитета и управлении внутренних дел Витебска: объективно ли был написан материал? Ответили: «Все верно и правдиво».*

*Бумага о якобы наказании сотрудников – обычная отписка. Во-первых, ненормально, когда жалобу рассматривает тот, на кого она поступает. Во-вторых, я знаю точно, что никто из милиционеров за свое бездействие и безалаберность наказан не был. А я как пчеловод материально очень крупно пострадал.*

**– А какую цель вы преследовали все это время?**

*– Я добивался справедливости. До этого жил с пониманием, что моя милиция меня бережет. Как оказалось, это далеко не так. И для меня милиция сейчас – не то место, где нужно искать помощь и справедливость. К сожалению, простой человек сегодня зачастую беззащитен, а на меня вообще объявили охоту, попытавшись осудить, чтобы я замолчал. Могут ли такие руководители, как начальник Городокского РОВД полковник Вороньков, обладать и распоряжаться властью?*

*Сразу после ограбления соседка сказала: «Эти искать не будут». Имея в виду сотрудников милиции. Так оно и вышло.*

**Роман ВАСЮКОВИЧ,**
**Фото автора.**
*Городок - Витебск.*

ОФИЦИАЛЬНО

### «Без комментариев»

На момент обращения «Народной Воли» в Городокский РОВД полковник Владимир Васильевич Вороньков находился в отпуске.

Участковый инспектор старший лейтенант Миронов от комментариев отказался.

*– Фамилия Анищенко мне знакома,* – ответил Игорь Юрьевич. *– Но по телефону никаких сведений я давать не буду. Будем разговаривать только с разрешения моего руководства. Я не знаю, кто мне сейчас звонит, и являетесь ли вы сотрудником газеты.*

### «Жалоб не поступало»

Свое мнение о жителе деревни Ковалевцы мы также попросили высказать председателя Долгопольского сельсовета Виктора Нехаева.

*– Николай Анищенко приезжает в деревню на лето, а так проживает в Витебске,* – сказал «Народной Воле» Виктор Геннадьевич. *– В деревне, в сельском Совете с ним проблем нет. Вопросы были с милицией, когда у него украли мед и велосипед, но об этом уже у него спрашивайте. Жалоб от Анищенко или на него от соседей в сельсовет не поступало.*

СІТУАЦЫЯ

## Аб скандальчыках і гордых літаратарах

Што чытаць у школе па беларускай літаратуры ў старэйшых класах? Пытанне прынцыповае. Літаратура – гэта той прадмет, які фарміруе асобу, светапогляд чалавека. Як вядома, Саюз пісьменнікаў Беларусі ў асобе старшыні Мікалая Чаргінца некалькі разоў звяртаўся да міністра адукацыі і ў Нацыянальны інстытут адукацыі, прапануючы свой спіс твораў беларускіх літаратараў для вывучэння ў школе. Гэта, напрыклад, творы самога Чаргінца, а таксама Дзялендзіка, Андрэева, Ждана, Паповай, Іллінскага, Аўруціна, Паліканіна і іншых... Нацыянальны інстытут адукацыі з некімі персонамі пагадзіўся, некія, аргументуючы, адхіліў.

Як бы каму ні падабаліся тыя ці іншыя пісьменнікі, іх погляды, прыхільнасць да ўлады ці, наадварот, апазіцыйнае стаўленне да яе, але, шчыра кажучы, я разумею дзеянні Чаргінца. У такім кантэксце і павінны функцыянаваць, па-мойму, дзяржаўныя структуры і грамадскія арганізацыі: раіцца, абмяркоўваць, прымаць, адхіляць.

Але ў краіне ёсць яшчэ адна творчая арганізацыя літаратараў – Саюз беларускіх пісьменнікаў. Іх, як вядома, не моцна падтрымліваюць улады, у нечым нават прыціскаюць. Але і яны часам да грамадскіх праблем абыякавыя. Чаму, скажыце, да гэтага часу найстарэйшы саюз, дзе сабраны цвет беларускай літаратуры, не прапанаваў, не агучыў свой спіс літаратурных твораў да вывучэння ў школе? Чаму не чуваць у медыя іх пазіцыі па гэтым пытанні?

Мы звярнуліся да намесніка старшыні СБП **Усевалада Сцебуракі** за пэўнымі тлумачэннямі.

– Змагацца, уступаць у палеміку з генераламі Чаргінцом мы лічым немэтазгодным. Гэта гульня ў адны вароты, бо ж разумееце сённяшнюю кан'юнктуру, – сказаў Усевалад Міхалаевіч. – А школьную праграму заўсёды рабіла Міністэрства адукацыі. Гэта функцыя не пісьменнікаў, вось у чым справа. Калі б да нас нехта звярнуўся за канкрэтнай, а не абстрактнай парадай, мы, вядома, склалі б спіс без праблем. А рабіць гэта, каб стварыць мікраскандальчык у прэсе, у чарговы раз палаяцца з Чаргінцом, – у нас такога намеру няма. Таму што ад гэтага няма ніякай карысці. Тады дзеля чаго? Для нататак у «Народнай Волі»? Прабачце, але мы і ў гэтым сэнсу не бачым.

Вось так. Мы пра адно, а спадар Сцебурака зусім пра іншае. Ніхто ж не прапаноўвае яму ўступаць у палеміку з Чаргінцом. Але чаму той Саюз пісьменнікаў зацікаўлены ў тым, каб творы яго членаў вывучаліся ў школах, гімназіях, ліцэях, а Саюз, намеснікам старшыні якога з'яўляецца Сцебурака, не праяўляе адпаведнай актыўнасці? І не толькі ў гэтым. У апошнія гады Саюза пісьменнікаў, у які некалі ўваходзілі Купала, Колас ды многія іншыя духоўныя тытаны, як быццам не існуе...

**Алена КІРЭЕВА.**

ТРАГЕДЫЯ

## Загінуў 43-гадовы Юрый Дзяменцьеў



Ва ўзросце 43 гадоў раптоўна памёр бізнесмен і былы дырэктар незалежнай «Белгазеты» **Юрый Дзяменцьеў.**

Бяда здарылася ў той дзень, калі стаяла спёка. Юрый адпачываў разам з сябрамі і іх дзецьмі ля вадаёма. Яму зрабілася кепска ў вадзе і...

У Юрыя Дзяменцьева засталіся жонка і трое сыноў.

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 ЖНІЎНЯ 2017 г.

СОЦЫУМ

# Як лечаць алкаголікаў?

*“Народная Воля” наведала Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр псіхічнага здароўя, больш вядомы ў народзе як “Навінкі”, і паглядзела, як там людзям дапамагаюць справіцца з залежнасцямі.*

*Сабекошт лячэння аднаго хворага на алкагалізм можа абыходзіцца дзяржаве ў сотні рублёў у дзень. Рэанімацыя, дэтокс (вывядзенне з арганізма шкодных рэчываў), медыкаменты і праца вузкіх спецыялістаў – гэта толькі першы ўнёсак у доўгі працэс рэабілітацыі.*



## Большасць пацыентаў – мужчыны ад 25 да 45 гадоў

Цэнтр псіхічнага здароўя – не закрыты рэжымны аб’ект, які хавае за высокімі мурамі свае таямніцы. Чалавека з залежнасцю не могуць здаць у “Навінкі” без яго жадання. Лячэнне без фармальнай згоды пачынаецца толькі ў тым выпадку, калі пацыента прывозяць у вострым стане.

*“Вельмі важна, каб чалавек мог патрапіць у цэнтр максімальна лёгка”*, – адзначае намеснік дырэктара па медыцынскай частцы (па наркалогіі) **Аксана Калбасава**.

У цэнтр можна прыйсці з накіраваннем ад мясцовых медыцынскіх устаноў ці звярнуцца самастойна ў паліклінічна-кансультацыйнае аддзяленне РНПЦ. Лячэнне можна прайсці ананімна, праўда, за гэта прыйдзецца даплаціць. Прыкладна 30–35 рублёў за дзень. Звычайна курс рэабілітацыі цягнецца ад 20 да 28 дзён. Калі падлічыць усе выдаткі на дапамогу людзям з алкагольнай залежнасцю ў цяжкіх сітуацыях, то сума можа дасягнуць некалькіх соцень рублёў за суткі. Гэтыя выдаткі фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту.

Знешне 3-е аддзяленне, дзе займаюцца лячэннем тых, хто знаходзіцца ў залежнасці ад тых ці іншых фактараў, мала чым адрозніваецца ад звычайнай бальніцы: у паветры пах антысептыкаў, жоўтая тынкоўка на сценах, пост медсястры і расліны ў гаршках. У кабінетах групавой тэрапіі на сценах календары з іконамі, кветкамі. Большасць пацыентаў – мужчыны ад 25 да 45 гадоў. Старэйшыя тут трапляюцца рэдка, бо хранічны алкагалізм не спрыяе моцнаму здароўю. Паводле слоў загадчыка сектара наркалогіі арганізацыйна-метадычнага аддзела РНПЦ псіхічнага здароўя **Уладзіміра Максімчука**, людзі, якія актыўна прымаюць наркотыкі і не звяртаюцца па дапамогу, жывуць са сваёй залежнасцю 10–12 гадоў, алкаголікі – не нашмат больш.

## Па апошнім слове…

Спецыялісты цэнтра працуюць згодна з міжнароднымі пратаколамі лячэння і рэабілітацыі. Пацыентам прапануюць лекі, сеансы індывідуальнай і групавой псіхатэрапіі. Добрым паказчыкам лічыцца, калі чалавек пасля тэрапіі не ўжывае алкаголь на працягу года. Перакрочыўшы гэтую мяжу, людзі рэдка вяртаюцца да спіртнога. Цяжка сказаць, колькі беларусаў назаўжды перамаглі сваю залежнасць. *“Думаю, каля 50 працэнтаў нашых пацыентаў працягваюць цвярозы лад жыцця”*, – мяркуе Аксана Калбасава. А колькі людзей не прызнаюцца, што маюць праблемы з алкаголем?



*“Мы выконваем сваю працу на “выдатна”*, – упэўнены дырэктар цэнтра **Аляксандр Старцаў**. – *Людзі з залежнасцямі рэдка прызнаюцца ў тым, што ў іх праблемы. Да нас могуць прывезці чалавека, які на нагах не стаіць, але ён будзе да апошняга даказваць, што ён кроплі ў рот не браў. Мы аказваем неадкладную дапамогу, але не можам прымусіць чалавека лячыцца”*.

Гонар установы – сучасны апарат магнітна-рэзананснай тамаграфіі (МРТ), кошт якога каля **1,5 мільёна еўра**. Бывае, што пацыентаў у цэнтр дастаўляюць пасля боек, у непрытомным стане. Часам сканіраванне неабходна, каб зразумець, што стала прычынай хваробы – пухліна, арганічнае паражэнне тканін, траўма ці іншая прычына.

Але людзям з алкагольнай залежнасцю куды часцей, чым МРТ, патрэбна гіпербарычная аксігенацыя. 40 хвілін пацыент знаходзіцца ў спецыяльнай камеры з высокім ціскам і павышаным утрыманнем кіслароду. Такія працэдуры дапамагаюць хутчэй правесці дэтаксікацыю, супакоіць нервы, нармалізаваць сон. Для пацыентаў, якія паступаюць у аддзяленне з абстынентным сіндромам, сеанс у баракамеры – сапраўднае выратаванне. Дарэчы, сеанс у баракамеры, як і абследаванне на апараце МРТ, платна можа прайсці любы чалавек.

## П’юць усе, але не ўсё

Сёння на дыспансерным уліку ў Беларусі стаяць каля 164 тысяч чалавек, хворых на алкагалізм. 35 тысяч з іх пражываюць у Мінску. Паводле назіранняў спецыялістаў, зніжаецца ўзрост тых, хто ўжывае алкаголь, псіхатропныя прэпараты. Дапамогу прыйшлося аказваць нават хлопчыку, якому не споўнілася 10 гадоў. Ён знайшоў дома псіхатроп, які належаў камусьці з дарослых, вырашыў пакаштаваць і атрымаў моцнае атручэнне.



*“Многае адбываецца з-за нізкай сацыяльнай адказнасці,* – канстатуе галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя **Андрэй Канаразаў**. – *Мы рэгулярна праводзім апытанні падлеткаў, і не раз нам паведамлялі, што алкаголь, піва ці цыгарэты дзецям набывалі старэйшыя сябры. Шмат у каго не патрабуюць паказаць пашпарт”*.

Любая залежнасць узнікае ад жадання змяніць, “палепшыць” свой стан. Па сутнасці, калі даць чалавеку магчымасць радавацца з іншых нагод, патрэбы ў алкаголі не будзе. Загадчык наркалагічнага рэабілітацыйнага аддзялення РНПЦ псіхічнага здароўя **Уладзімір Іваноў** упэўнены, што пры жаданні за 20–25 гадоў у Беларусі можна было б значна знізіць ужыванне алкаголю. *“Патрэбна палітычная воля”*, – зазначыў Уладзімір Уладзіміравіч.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**
*Фота аўтара.*

ЛІЧБЫ

У наступным годзе РНПЦ псіхічнага здароўя будзе адзначаць 100-годдзе з дня заснавання. Сёння цэнтр налічвае 1600 супрацоўнікаў і 1562 месцы для хворых. Гэта адна з буйнейшых клінік Еўропы, у якой аказваюць дапамогу людзям з ментальнымі праблемамі. Людзі з залежнасцямі складаюць значную частку пацыентаў, ім дапамагаюць адразу ў некалькіх аддзяленнях.

ІНІЦЫЯТЫВА

# Чаму Саюз пісьменнікаў супраць вуліцы імя Ларысы Геніюш?

*Гэтым летам актывісты маладзёжнага крыла Партыі БНФ сабралі і перадалі ў Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў больш за тысячу подпісаў за наданне імя выбітнай беларускай паэткі Ларысы Геніюш адной са сталічных вуліц. Але прадстаўнікі ўлады не спяшаюцца выконваць просьбу. У адказе напісана, што, калі будзе распрацоўвацца новая вуліца, яны ўлічаць просьбу грамадзян.*

– Як высветлілася, галасы больш як тысячы грамадзян Рэспублікі Беларусь – пусты гук для мясцовых улад, – *кажуць маладыя актывісты Партыі БНФ*. – Такі адказ яскрава адлюстроўвае абыякавае стаўленне дэпутатаў як да сваіх выбаршчыкаў і іх меркавання, так і да беларушчыны ў цэлым.

Мы нават не патрабавалі пераймяноўваць нейкую з ужо існуючых вуліц, наша мэта была – надаць імя Ларысы Антонаўны адной з новых вуліц нашага горада. Але, відаць, сённяшнія ўлады лічаць, што выбітная літаратарка і грамадская дзеячка, якая зрабіла безліч усяго для нашай краіны, не вартая таго, каб яе памяталі. Камуністычныя дзеячы і савецкія чыноўнікі – вось тыя, каго варта ўшаноўваць на шыльдах з назвамі вуліц, якіх ужо і без таго шмат у нашым горадзе.

Акрамя таго, не так даўно мы звярталіся ў Мінгарвыканкам з просьбай аб наданні імя паэткі адной з бібліятэк горада Мінска. Але на гэта гарадскія ўлады далі адмоўны адказ, спаслаўшыся на меркаванне Грамадскага аб’яднання “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, які *“лічыць прысваенне адной з бібліятэк г.Мінска імя паэтэсы Ларысы Геніюш неабгрунтаваным”*. Што ж, калі замест ушанавання імя паэткі ў назве бібліятэкі саюз пісьменнікаў аддае перавагу стандартнай нумарацыі, тут ужо, напэўна, паўстае пытанне абгрунтаванасці існавання самога такога саюза пісьменнікаў...



Яшчэ раней нам адмовілі ў наданні імя Ларысы Антонаўны вуліцы ў Зэльве – на малой радзіме паэткі, а на заяву з патрабаваннем рэабілітаваць асобу Геніюш Генпракуратура адказала, што тая не падлягае рэабілітацыі. Але нас такі адказ цалкам не задавальняе. Кампанія за рэабілітацыю Ларысы Геніюш – гэта ўжо прынцыповая справа для моладзі Партыі БНФ. Гэтая выбітная жанчына зрабіла вялікі ўнёсак у беларускую літаратуру, усё жыццё змагалася за праўду, хоць ёй і давялося паплаціцца за гэта ўласнай свабодай, таму мы зробім усё магчымае, каб яна заняла заслужанае месца ў памяці беларускага народа.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ДЕЖАВЮ

# «Учителя и воспитатели в будущем году не должны жаловаться на низкую зарплату»

Выступая несколько дней назад на Республиканском педагогическом совете, Александр Лукашенко вновь говорил об учительских зарплатах и в очередной раз пообещал, что в будущем году учителям и воспитателям будут платить так, чтобы проблема «жалоб на низкие зарплаты была снята».

Эти бы слова да, как говорят, Богу в уши. Сколько раньше было подобных обещаний из уст главы государства! Вспомним хотя бы некоторые из них.

***

*«Учителей, врачей, нянечек, воспитателей в детском саду надо «подтягивать». И если мы в следующем году в 2 раза увеличим им зарплаты и вырастет средняя зарплата по стране, тогда у людей и настроение будет хорошее».*

***(Во время встречи с жителями агрогородка Холмеч Гомельской области, июль 2010 г.)***

***

*«Выход один: мы будем повышать заработную плату учителям, они обязаны получать больше, получать достойную заработную плату и эффективно работать… Учитель сегодня больше, чем учитель, это еще и политическая фигура, мы их просим сходить к людям, какую-то политинформацию провести, особенно в малых городах и селах. Кроме учителя и врача, это не сделает никто, это основа интеллигенции».*

(***Во время пресс-конференции для представителей белорусских и зарубежных СМИ, январь 2013 г.)***

***

*«Мы никуда не денемся от повышения заработной платы учителям. Будем разбираться и двигать им зарплату… В ближайшее время, думаю, в сентябре, вы услышите об этом”.*

***(Во время общения с трудовым коллективом Березовской ГРЭС, август 2014 г.)***

***

*«Ситуация с материальным обеспечением учительства дальше нетерпима, поэтому давайте учителя нагрузим настолько, насколько он должен быть загружен, но будем платить достойную зарплату. (…) Это плохо, когда уже сегодня учитель в хороших, средних хозяйствах имеет половину от зарплаты механизатора, доярки. Это ненормально. Поэтому этот вопрос коренной, центральный. Как бы мы от него ни уходили, как бы мы себя ни убаюкивали, что учителя не ставят перед нами каких-то материальных вопросов, мы четко должны понимать, что для каждого человека это важный момент».*

***(Заслушивая доклад о ходе приемной кампании и подготовке системы образования к новому 2016/2017 учебному году, 9 августа 2016 г.)***

В ТЕМУ

# «Зарплаты воспитателей публикуем два раза в пять лет»

Последние данные о начисленных в Беларуси зарплатах касаются июля. Согласно сведениям Белстата, во второй летний месяц средняя зарплата в стране составила 827,5 рубля, но у работников бюджетных организаций она была гораздо ниже – 611,4 рубля «грязными».

Специалисты, занятые в сфере бюджетного образования, в среднем заработали в июле 537,1 рубля. Ниже педагогов «получки» были только у работников музеев, библиотек, социальных служб и Домов быта. Учителям в июле в среднем было начислено около 649 рублей, то есть чуть более 325 долларов по курсу Нацбанка.

А сколько зарабатывают воспитатели детских садов? Оказывается, найти эти данные в открытом доступе непросто. Официальная статистика обычно ограничивается цифрами по средним зарплатам учителей и преподавателей вузов. Почему?

– *Воспитатель детского сада – это профессия*, – пояснила нам заместитель начальника управления статистики о труде Национального статистического комитета **Наталья ВОЕВОДИНА.** – *Мы же собираем статистику не по профессиям, а по видам экономической деятельности. То есть у нас есть данные о заработной плате работников учреждений дошкольного образования, но надо понимать, что там будет учтена зарплата и нянечки, и завхоза, и воспитателя, и дворника, и заведующей детским садиком. Что касается статистики зарплат по профессиям, то она собирается два раза в пять лет, и последний раз это было в октябре 2016 года.*

Если же говорить о средней начисленной зарплате в учреждениях дошкольного образования, то в июле 2017 года она составила всего лишь 445,4 рубля, или 230 долларов по нынешнему курсу Нацбанка.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ДАЛЁКАЕ – БЛІЗКАЕ

# ТРАГІЧНЫ ЛЁС РЭЧКІ АРЫЖНІ

У кожнага вясковага хлапчука ёсць мясціна альбо нават дрэва, якое ён любіць, як добрую жывую істоту. У далёкім, незабыўным дзяцінстве мне надта падабаўся клён, што стаяў на нашым двары. Начапіўшы на ногі складзеную ў дзве столкі папружку, я караскаўся па гладкім ствале дрэва да вершаліны. Дасягнеш яе і адчуваеш прыліў светлай радасці, прахалоду шырокіх, як далоні, лісцяў. Адсюль, з самай макаўкі клёна, відаць вёска Паставічы, Брэст-Маскоўская шашэйная дарога, па якой безупынку снуюць машыны, падводы. А ўзбоч бачны постаці людзей. Мабыць, сярод іх вяртаецца з мястэчка і мая матуля з гасцінцамі. І дагэтуль шуміць густой кронаю мой клён, нібы ўдакладняе месца, дзе калісьці стаяла наша хата з блакітнымі ліштвамі.

І ўсё ж больш любіў я ціхаплынную рэчку Арыжню, што несла свае воды лугамі ды паплавамі Старадарожчыны паблізу маёй роднай вёскі Новыя Фалічы. Арыжня і цяпер варушыць памяць, наводзіць на ўспаміны.

…Позні летні вечар. Чуйная цішыня. Нават не варухне ні адным лісцікам шапаткі трыснёг. У рачную глыбіню ўзіраецца Мядзведзіца. І вось з супрацьлеглага берага, з ельніка даносіцца ўскрык казадоя. Нам, падшыванцам, што прывялі ў начное коней, ужо знаёмы ўскрыкі гэтай птушкі. Але ўсё роўна вусцішна, страшнавата. Толькі ніхто з нас не падае выгляду, каб не паказацца перад сябрамі баязліўцам. Падкідваем у касцёр сухое ламачча, шпурляем уверх іскрыстыя галавешкі. Недзе ў цемры, за шырокім кругам кастра, пафыркваюць коні, звоняць цуглі аброцяў, і нам ужо зусім не боязна. Рассоўваем галавешкі, выграбаем з пыхкага пырску бульбіны і, пакачаўшы іх па траве, ядзім. За ядой не заўважылі, як на ўсходзе заружавела світальная палоска. Праз якой паўгадзіны з-за гарызонту выкацілася сонца. Папаўзлі ў лазняк пасмы туману. Адтуль адазваўся невідзімка дзяркач. Гэта значыць, роўна восем гадзін раніцы. Пара дадому. Сядлаем Сівак-Гнедак. Едзем, не спяшаючыся, крокам. Грэем здранцвелыя босыя ногі на іх цёплых крутых баках. Раімся, хто ў наступны раз будзе браць бульбу, хто сала. Віцька Праташчык павінен прыхапіць з сабой бутэльку малака. Віцька апусціў галаву. Высвятляецца, што пазаўчора ў Праташчыкаў два дужыя дзецюкі вывелі з хлява карову-карміцельку за запазычанасць па падатках. Забралі б і каня, ды бацька якраз у той дзень быў у полі, абганяў бульбу.

Арыжня клікала нас узімку і вясною. Мы не чакалі, пакуль у ёй добра прагрэецца вада, плёскаліся ў халоднай, хоць нашы целы пасля такой купелі былі ўсыпаны пупырышкамі. І ніхто не хварэў. Рэчка загартоўвала нас, шчодра адорвала рыбай. Матулям было што пакласці на патэльню. А іншы раз з плоткамі, падлешчыкамі ды тлустымі лінькамі на рынак сходзяць, і на выручаныя грошы купяць корту на штанікі ды пінжачок.

І раптам рэчку атакавалі браканьеры. Не з электравудамі і сеткамі з’явіліся яны тут, а з толавымі шашкамі і прычындаламі да іх. Амаль штодзень грымелі выбухі, узнімаючы слупы вады. Падбіралі толькі буйную рыбу. Дробная стаяла прыбітая хвалямі да берагоў. Дробязі было столькі, што стаі птушак не ўпраўляліся склёўваць, і яна гніла.

Невядома, колькі б яшчэ працягвалася кананада, ды мы высачылі месца, дзе нядобрыя людзі прыхоўвалі выбуховыя сродкі. На выспе ў тайнічку знаходзілася шаснаццаць двухсотграмовых ужо падрыхтаваных толавых шашак, каля адзінаццаці метраў бікфордавага шнура, надзіманая гумовая лодка, вёслы, сачкі, некалькі пар паляўнічых ботаў. Увесь гэты арсенал быў перададзены міліцыі.

Ледзь толькі рэчка ачомалася ад гэтага драпежнага замаху, як на яе абрынулася іншая бяда: суседні калгас “Дружба” пачаў скідваць у яе нечыстоты са сваёй фермы, якая стаяла на ўзгорку. А паколькі Арыжня ўпадае ў Пціч, то ёй таксама давялося перанесці нямала пакут. Амаль два гады працягвалася гэтае атручванне. І толькі пасля настойлівага ўмяшання эколагаў і інспекцыі рыбнагляду ўдалося перакрыць гнойна-жыжкавы паток, узмацніць ахову прыродных рэсурсаў. Здавалася, цяпер на рэчку ніхто не пакваліцца. Хопіць з яе здзекавацца. І праўда, на яе плёсах і тонях усталявалася заціцшша. Тут зноў чуліся бадзёрыя дзіцячыя галасы і ўскрыкі на мелкаводдзі, ды дзед Пракоп з вудай у руках і торбай праз плячо тупаў берагам.

Але спакой працягваўся не надта доўга. Неяк раз летнім ранкам пойму Арыжні ўскалыхнуў гром і грукат. Уздоўж правабярэжжа рэчкі ўзнялі доўгія шыі экскаватары, зарыкалі бульдозеры. Пад стагадовым дубам атабарыўся вагончык меліяратараў. Сяльчане ўсёй вёскай прыйшлі на ўзбалотак, малітоўна прасілі не чапаць рэчку, якую матухна-прырода падарыла людзям на вякі вечныя. Іх словы нібыта ветрам аднесла ўбок. Застаўся без увагі і зварот вяскоўцаў у адпаведныя высокія інстанцыі. Адзін з чыноўнікаў раённага маштабу патлумачыў, што правядзенне меліярацыі ў пойме Арыжні прадыктавана неабходнасцю расшырэння зямельных плошчаў пад кармавыя культуры калгаса “Герой працы”.

Травы выраслі, а рэчка і ўсё жывое, што звязана з ёй, знішчана. Праз гадоў колькі гаспадарка стала адчуваць недахоп аператараў машыннага даення на сучаснай малочна-таварнай ферме. Адны з іх пайшлі на пенсію, іншых не задавальняла сістэма аплаты працы, і яны таксама звальняліся. Замены ім не знайшлося, кадравае пытанне засталося нявырашаным. Такім чынам ферма, не паспеўшы акупіць затраты на будаўніцтва аб’екта і набыццё тэхналагічнага абсталявання, была ліквідавана. А неўзабаве перастаў існаваць і сам калгас. Значныя плошчы сельгасугоддзяў узяла апрацоўваць другая гаспадарка, а частку ворнай зямлі занялі бььнёг і крапіва. Прыйшоў у заняпад і малады сад.

Такога сумнага фінішу і належала чакаць, бо кіравалі калгасам безыніцыятыўныя людзі без адпаведнай падрыхтоўкі. Яны не спяшаліся замацавацца на сяле, а ажыццяўлялі сваю дзейнасць наездам з райцэнтра. Добра ведалі, што не сёння, дык заўтра зноў вернуцца ў горад на ранейшую работу альбо нават з павышэннем па службовай лесвіцы.

Цяпер у Новых Фалічах – былым цэнтры былога калгаса “Герой працы” – засталося зусім мала жыхароў. Гэта ўбеленыя сівізною нямоглыя людзі, якія ў першыя пасляваенныя гады і пазней з поўнай аддачай працавалі на зямлі ва ўмовах дэфіцыту тэхнічных і матэрыяльных сродкаў. Не скажаш, што зараз яны жывуць камфортна. Не працуе крама, не стала аптэкі. Пенсія і іншыя сацыяльныя выплаты дастаўляюцца са Слуцка больш як за 70 кіламетраў. Затое нядаўна ў вёсцы заасфальтавалі вуліцу.

– На схіле свайго веку мы атрымалі брадвей, – гаворыць 80-гадовы ветэран працы Мікалай Паўлавіч Шчэрба. – А як знайсці сродкі на вартую агароджу могілак, дзе пахаваны нашы продкі і дзе мы знойдзем свой апошні прытулак?

Пагутарыўшы з землякамі, іду да знявечанай, трагічна загінуўшай рэчкі. Стаю на яе ледзь прыкметным беразе. Ні дрэўца, ні кусціка навокал. Як на більярдным стале. Толькі кроках у трох ад мяне схіліла нізка галаву адзінокая рамонка. Тужліва на сэрцы, пашчыпвае ў вачах. Быццам знаходжуся на месцы пахавання блізкага мне чалавека.

**Фёдар ЛАПАНІК,**
**былы жыхар**
**вёскі Новыя Фалічы.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 ЖНІЎНЯ 2017 г.

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

# О теле, деле и диалоге с министром

*Андрейс ЖАГАРС – человек-луковица. У него профессий – как слоев у головки лука. Он латышский актер и российский телевизионный ведущий, он бизнесмен и депутат Рижской думы, наконец он – известный оперный режиссер, в каком качестве и пребывает сейчас в Минске, в Большом театре оперы и балета, где работает над постановкой оперы Верди «Травиата». К слову, все билеты на сентябрьские премьерные показы спектакля проданы. Я хотела обрадовать нашего гостя этим фактом, но по его реакции поняла, что он как раз удивился бы, если бы ситуация выглядела иначе. Он, конечно, перфекционист и счастливчик – уверенный, неотразимый, напористый Андрейс Жагарс.*



**– Почему так популярна «Травиата»? Заезженный сюжет… У вас как у режиссера есть незаезженный ответ?**

– Из-за гениальной музыки – это самый небанальный ответ. И потом трогает история о социальных и материальных разногласиях, которые стоят между влюбленными, она до сих пор актуальна. Ведь «Травиата» – не история о женщине легкого поведения, которая зарабатывает деньги проституцией.

**– Разве?**

– Виолетта, главная героиня, – содержанка. Но не проститутка. Она не вульгарная, дешевая женщина. В наши дни молодые женщины тоже живут на деньги богатых мужчин на определенных условиях. Многие чистые, романтичные души приехали в большой город из провинции, не ожидая, что попадут в грубую мясорубку мегаполиса, которая вынудит их стать «травиатами», любовницами, как говорили раньше, куртизанками. Так было в XVIII, XIX веках, так продолжается и в наши дни. В Нью-Йорке, Париже, Минске, Москве – везде богатые мужчины пользуются за деньги женской красотой и телом.

**– А вот вы бы благословили кого-нибудь из своей семьи на брак с такой женщиной?**

– Все зависит от уровня чувств. И потом, все равно дети делают то, что хотят, не считаясь с родительской волей. И теряют из-за этого порой наследство, материальную поддержку родителей. Но если чувства очень сильные, они справляются с нуждой.

**– Вы поставили на партию Виолетты трех очень молодых солисток нашего театра. Это подарок певицам! Но себе, похоже, вы жизнь осложнили. Репетиции идут, я видела, довольно трудно.**

– Я шестой год преподаю в Москве в ГИТИСЕ, так что у меня есть опыт работы с молодыми. Сейчас действительно мне приходится ставить спектакль и одновременно учить молодых певиц основам актерского мастерства. Ведь в консерватории этим просто не занимаются. И это не только в Минске, но и в Риге, и даже в Париже. И только в Лондоне, в Roayl Academic of Music (Королевская академия музыки), певцам дают достаточно уроков актерского мастерства, этот предмет там не второстепенный.

**– А вы сами поете?**

– С шести лет. А потом пел как актер. Слух у меня хороший, я отлично слышу фальшь, ошибки. Я не хвастаюсь, просто уже 20 лет работаю в опере. Но вообще, как зритель и бывший актер, я прощаю вокальные недостатки певцу, если он создал яркий драматический образ...

**– Мне кажется, режиссеры сейчас слишком тянут одеяло на себя. И даже дирижеры теперь в опере уходят на второй план.**

– Нет, все зависит от таланта дирижера. Режиссер обязательно считается с музыкальным материалом, иначе он не профессиональный человек. Мы работаем вместе.

И еще. Требования драматического театра очень быстро перешли в музыкальный жанр. И теперь, чтобы быть оперной звездой, у тебя должны быть определенные физические и актерские данные. С чем я борюсь сейчас при постановке? У певцов не скоординировано тело. Человек мало занимался танцем, спортом. В теле – вялость.

**– А вы, кажется, занимались упорно – такой разворот в плечах!**

– Я занимался легкой атлетикой. И сейчас слежу за собой.

**–А какой, кстати, у вас рост?**

– Метр девяносто восемь.

**– Расскажите о семье ваших родителей. Вы из Цесиса, маленького латышского городка…**

– В Цесисе всего 17 тысяч жителей, но есть прекрасный концертный зал, построенный с помощью Европейского Союз. Там проходит ежегодный фестиваль «Балтийский музыкальный сезон», и я его художественный руководитель. Музыкальная культура очень важна для нас.

**– Я прочитала, что ваши родители были депортированы из Латвии два раза: в 1940-м и 1949 годах. Как это происходило?**

– В 1940-м – когда Советы пришли первый раз, семью мамы как людей зажиточных, состоятельных отправили в Сибирь, а семью папы отправили туда как баптистов. Но в 1946 году мама вернулась в Латвию: детям депортированных родителей позволяли вернуться. Например, двоим из четырех детей, и то, если остались родственники в Латвии. И вот мама с сестрой вернулись. Мама поступила в педагогический, училась играть на фортепиано, и однажды ее снова забрали – прямо из класса. И теперь уже вместе с крестными родителями отправили в ссылку. Я появился на свет в Сибири в 1958 году, и только через год семья вернулась в Латвию – это уже не возбранялось. А когда в 1990 году Латвия получила независимость второй раз, то нам всем вернули наши дома. Маме сейчас 88 лет, она счастлива, что живет там, где родилась, в своем родовом гнезде. Дом, конечно, частично перестроен, ему все-таки 150 лет, но половина оставлена как этнографический музей. Нам всем там очень хорошо.

**– Вы много лет успешно проработали директором Латвийской национальной оперы, а потом вдруг были уволены, но где-то в интервью обмолвились, что будете подавать в суд на министра культуры. Подавали?**

– Я советовался с адвокатом. Он подтвердил, что да, я уволен несправедливо. Когда у меня кончился контракт, я снова выиграл конкурс на должность. Было 7 членов комиссии, которые проголосовали за меня. Но министр культуры мою кандидатуру не утвердила. Это действительно незаконно. Кстати, через два дня ее уволили.

**– Вот это сюжет!**

– Она не была человеком культуры, она не знала, кто такой Станиславский и даже что значит Берлинский кинофестиваль для современного кинематографа… Но это бывает в среде политиков.

**– А может быть, она уволила вас с должности из-за ваших тесных связей с Москвой?**

– И это может быть. В общем, диалога у нас с ней не получилось. Работая последние четыре года в директорском кресле, я боролся за постановку оперы Вагнера «Кольцо Нибелунгов»: великий композитор жил в Риге, писал оперы, дирижировал в нашем театре, в конце концов, приближался его юбилей. Конечно, на постановку требовались финансовые средства, и я все время публично требовал деньги от министра.

**– И министра это раздражало?**

– Конечно. Но наказать она меня не могла: финансовая дисциплина в театре была копеечка в копеечку. Просто дождалась момента перезаключения контракта и уволила. А в суд я не подал, потому что мне сказали жестокую правду: будешь судиться не менее 5 лет и все это время платить адвокатам. Ты этого хочешь? Я подумал: за спиной 17 лет руководства оперой, может, остановиться и взяться за что-то другое? Хотя оперный театр при мне, скажу без ложной скромности, расцвел. Мы были три раза в Гонконге, ездили в Макао, Мексику. Это были настоящие творческие гастроли, а не коммерческие «давайте быстрее заработаем». Мы выдержали большую конкуренцию. И что показывали? «Леди Макбет Мценского уезда» Шостаковича, сложнейшее произведение! Так что я свои директорские амбиции удовлетворил – вывел оперу на уровень международного признания. Молодые латвийские певцы стали ездить по миру и петь в ведущих театрах.

**– А вы еще занимаетесь ресторанным бизнесом?**

– У меня была сеть кафе, этим бизнесом я начал заниматься еще в начале 1990-х. Но когда пошел в оперу, мне пришлось бизнес продать, невозможно было соединять проекты. Тем более опера была после 5-летнего простоя из-за ремонта, труппа очень устала, в общем, театром надо было заниматься. А сейчас у меня осталось одно кафе, которому больше 25 лет. «Осирис» – это кафе и книжный магазин. Атмосфера, публика... Туда с самого начала стала приходить творческая интеллигенция и студенты. За эти годы они выросли, многие стали знаменитыми, но все равно наведываются в кафе. Это уже часть моей личной истории.

**– Вы несколько раз были ведущим в очень популярном проекте российского канала «Культура» – «Большая опера». Остаетесь на новый сезон?**

– Вообще я недавно стал депутатом Рижской думы, плюс преподавательская работа, постановка спектаклей и художественное руководство фестивалем «Балтийский музыкальный сезон». Но и в «Большой опере» буду работать. С 24 сентября начинаются съемки сезона-2017.

**– В роли ведущего вы великолепны. Чувствовалось настоящее, а не показное участие в конкурсе.**

– Да? Это моя жизнь, мне всегда приносила радость работа с молодыми талантливыми людьми.

**– А что было для вас самым тяжелым на этих телевизионных съемках?**

– Чисто говорить по-русски. Для прибалта я говорю хорошо. Но для ведущего – плохо, мне трудно импровизировать на русском без акцента. Но поскольку я актер, то при хорошей тренировке все преодолимо. А в остальном я чувствую себя как рыба в воде.

**– Знаете, а нам, зрителям, всегда очень нравился прибалтийский акцент наших соседей. Так что – удачи!**

**Елена МОЛОЧКО.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Виктория Азаренко возвращается на корт?

*Известная теннисистка Виктория Азаренко проявила интерес к турниру, который состоится в Квебеке с 9 по 17 сентября.*

Эту новость сейчас активно обсуждают в социальных сетях.

Участие Азаренко в Квебеке еще под вопросом, директор турнира Coupe Banque Nationale подтвердил, что «есть интерес» со стороны команды теннисистки.

«Все произошло неожиданно, – рассказал Жак Эриссе. – На прошлой неделе вдруг зазвонил телефон. Это был агент Виктории Азаренко: «Виктория интересуется возможностью сыграть в Квебеке, мы хотели бы знать, есть ли у вас еще приглашения для игроков топ-20».

Между тем в команде Азаренко сообщили, что им нужно несколько дней, чтобы подумать.

Напомним, что Виктория Азаренко была вынуждена отказаться по семейным обстоятельствам от участия в US Open, который стартовал вчера.

«Мы не хотели бы делать громких заявлений, чтобы потом сказать, что ничего не вышло, – объясняет ситуацию Эриссе. – Но хорошая новость в том, что есть такой интерес».

Как уже сообщала «Народная Воля», в последнее время знаменитую теннисистку волновали не столько карьерные, сколько семейные вопросы. Причем Виктория открыто рассказала о том, что ее волнует.

«Декабрьский день прошлого года, когда мой сын Лео появился на свет, стал самым счастливым днем в моей жизни, – написала Азаренко на своей странице в «Инстаграмме» о том, что происходит в ее жизни. – Сейчас я совершенно по-другому ценю то, как новоиспеченные мамы и папы справляются со всеми своими многочисленными обязанностями. Однако, как и большинство работающих мам, несмотря на безусловную любовь к моему сыну, я столкнулась со сложной ситуацией, которая может не позволить мне вернуться к работе прямо сейчас.



В марте в Беларуси я начала работать с целью вернуться в теннис и соревноваться на высочайшем уровне уже к 31 июля. Я смогла вернуться раньше, сыграв на Мальорке в середине июня, а затем и на Уимблдоне.

Вскоре после Уимблдона мы с отцом Лео расстались и сейчас решаем юридические вопросы. В ситуации, сложившейся на данный момент, я могу сыграть на US Open в этом году только в том случае, если оставлю Лео в Калифорнии, что я делать не хочу.

Одновременно заботиться о ребенке и строить карьеру непросто для каждого родителя, но это вызов мне, и я готова его принять. Я хочу выразить свою поддержку всем мужчинам и женщинам, которые убеждены, что совершенно нормально быть родителем и при этом работать. Никто и никогда не должен выбирать между ребенком и карьерой: мы достаточно сильные, чтобы заниматься и тем, и другим.

Я безмерно благодарна за поддержку, которую получаю от мужчин и женщин по всему миру, которые понимают всю значимость поддержки работающих мам и наше право быть рядом с нашими детьми! Я очень надеюсь, что совсем скоро мы найдем решение в нашей непростой ситуации, и я смогу снова вернуться к соревнованиям. Ни один родитель не должен выбирать между ребенком и карьерой.

Я верю, что в ближайшее время отец Лео и я сможем переступить через все разногласия и предпринять шаги в правильном направлении, чтобы совместными усилиями прийти к соглашению, когда мы втроем сможем путешествовать, а я – соревноваться и, что еще более важно, сможем сделать так, чтобы Лео постоянно находился с обоими родителями».

Поклонники выражают поддержку прославленной белорусской теннисистке в социальных сетях – под ее записью в «Инстаграмме» несколько сотен комментариев, а пост прочитало более двадцати тысяч человек.

**Вера ВИР.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ



## Над ракою ў спакою

Словы і музыка народныя

Над ракою ў спакою
Расцвітала каліна,
А ў сяле за ракою
Вырастала дзяўчына. } 2 разы

На каліну-маліну
Прылятала зязюля,
Да дзяўчыны Галіны
Прыглядаўся Януля. } 2 разы

За ракой, дзе Галіна,
Сенажаці касілі,
А ў сяле, дзе Януля,
У паход затрубілі. } 2 разы

Перастала каліна
У цвяточкі ўбірацца,
Перастала Галіна
З сваім мілым відацца. } 2 разы

Бедавала зязюля,
Што цвяточкаў не стала,
Бедавала матуля,
Што дзяўчына прапала. } 2 разы

Падняла восень хвалі
У рацэ пад калінай,
Пайшлі ў бой партызаны,
Там была і Галіна. } 2 разы



ЧУЛІ?

# Мільянер Уладзімір Кіслы зрабіў падарунак Свята-Траецкай царкве

Атрымаць задавальненне ад майстэрства наезнікаў і прыгажосці коней, здзейсніць падарожжа на брычцы, стаць сведкам вясельнага абрада ў шляхецкіх строях, паўдзельнічаць у майстар-класах рамеснікаў і нават паспець пабываць на раённых "Дажынках" можна было ў межах "Ганненскага кірмашу", які ладзіўся ў Зэльве 25–26 жніўня. Яго традыцыі сягаюць у XVIII стагоддзе, калі на ім збіраліся да пяці тысяч гандляроў з усёй Еўропы.

Кірмаш пачаўся на маляўнічым беразе вадасховішча "Зяльвянка" спаборніцтвам рыбаловаў і конкурсам страў з рыбы, пасля чаго адбываліся водныя забавы, а таксама дыскатэка да глыбокай ночы. У першы ж дзень у межах кірмашу ў аграгарадку Елка прайшла традыцыйная навукова-практычная канферэнцыя "Сынкавіцкая царква – сакральнасць і таямніцы", на якой было прэзентавана новае даследаванне па гісторыі храма пратадыякана Паўла Бубнова.

У другі дзень адбылося тэатралізаванае адкрыццё кірмашу, пасля якога ў цэнтры Зэльвы разгарнулася свята "Дажынкі" і канцэрты з удзелам не толькі беларускіх ансамбляў, але і творчага калектыву з Латвіі. Ладзіліся шматлікія конкурсы, у тым ліку на лепшы сельскагаспадарчы падворак і лепшы каравай.

Ганненскі кірмаш нельга ўявіць без коней, майстэрства кіравання якімі прадэманстраваў конна-спартыўны клуб "Троя". Таксама была прадстаўлена выстава фігурак коней з разнастайных матэрыялаў.

Падчас кірмашу ў прыхадскім доме Свята-Траецкай царквы была прэзентавана складзеная Яўстахам Сапегам кніга "Гісторыя Сапегаў. Жыццяпісы. Маёнткі. Фундацыі". Выданне фінансавала сусветна вядомая кампанія Wargaming, заснавальнік якой Уладзімір Кіслы з'яўляецца выпускніком Дзярэчынскай сярэдняй школы Зэльвенскага раёна.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Беларусы заваявалі шэсць медалёў на чэмпіянаце свету па веславанні

*Спаборніцтвы праходзілі ў Чэхіі.*

## Чэмпіёнка з Мазыра



**Вольга Худзенка** ўзяла золата ў спаборніцтвах байдарачніц-адзіночак.

За зборную Беларусі яна выступае з 2011 года. Спартсменка родам з Хойнікаў. Займацца веславаннем пачала ва ўзросце чатырнаццаці гадоў у спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву ў Мазыры.

Жыве і трэніруецца ў Мазыры. Вучыцца ў Дзяржаўным універсітэце імя Шамякіна.

## Наймацнейшы ў свеце



Сярод мужчын **Арцём Козыр** аказаўся мацнейшым. Ён, дарэчы, шматразовы пераможца і прызёр рэгат нацыянальнага значэння. Спартсмен нарадзіўся ў Мінску ў 1990 годзе. На мінулым чэмпіянаце ўзяў золата на дыстанцыі – 200 метраў.

У 2015 годзе быў уганараваны правам абараняць гонар краіны на чэмпіянаце свету ў Мілане: там Арцём Козыр заваяваў залаты медаль. Беларус меў усе шанцы на перамогу ў Алімпійскіх гульнях у Рыа-дэ-Жанейра. Але мужчынская вяслярная каманда Беларусі была адхілена ад спаборніцтваў у сувязі з допінгавай справай. Наймацнейшаму ў свеце спрынтару-канаісту не прад'явілі прэтэнзій у сувязі з допінгам, але да Алімпіяды не дапусцілі.

## І спартсмен, і міліцыянт



Бронзавы медаль у байдарачніка **Рамана Петрушэнкі.** Ён алімпійскі чэмпіён і 7-разовы чэмпіён свету, заслужаны майстар спорту. Узнагароджаны ордэнам Беларускай праваслаўнай царквы Свяціцеля Кірылы Тураўскага II ступені. Прызнаны лепшым спартсменам 2009 года.

З'яўляецца супрацоўнікам ДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама. Спецыяльнае званне маёра міліцыі было прысвоена па-за чаргой пасля Алімпіяды ў Пекіне ў 2008 годзе. Таксама Раман Петрушэнка выкладае тэорыю і методыку фізічнага выхавання ў Мазырскім дзяржаўным педагагічным універсітэце.

## У спорт з ранняга дзяцінства



**Віталь Бялько** – таксама бронзавы прызёр. Вясляр-байдарачнік выступае за нацыянальную зборную Беларусі з 2015 года. Актыўна займацца веславаннем пачаў з ранняга дзяцінства. Упершыню заявіў пра сябе ў 2013 годзе – будучы студэнтам, прадстаўляў краіну на летняй Універсіядзе ў Казані, дзе заваяваў залаты медаль у двойках на пяцістах метрах.

Разам з напарнікам Раманам Петрушэнкам у 2016 годзе выйгралі бронзу на еўрапейскім першынстве ў Маскве ў праграме байдарак-двоек на дыстанцыі 500 метраў. Таксама іх экіпаж атрымаў перамогу на этапе Кубка свету ў нямецкім Дуйсбургу. За выдатныя спартыўныя дасягненні ўдастоены ганаровага звання «Майстар спорту Рэспублікі Беларусь міжнароднага класа».

## З марай аб прафесійным спорце



На каноэ-адзіночцы **Максім Пятроў** заняў трэцяе месца. З кар'ерай спартсмена ён вызначыўся яшчэ ў школе. З'яўляецца бронзавым прызёрам чэмпіянату свету і Еўропы, шматразовы пераможца і прызёр рэгат рэспубліканскага значэння.

Спартсмен вырас у Бабруйску ў шматдзетнай сям'і. У інтэрв'ю Максім прызнаваўся, што адным з яго хобі з'яўляецца кулінарыя.

## Алена і Каміла

Пашанцавала ў Чэхіі і **Алене Наздровай** *(на здымку ўнізе)* і **Каміле Бобр** – беларускім вясляркам-канаісткам. Каміла – ураджэнка Мазырскага раёна, а Алена з Чэрыкаўскага.

На мінулым чэмпіянаце ў Чэхіі сталі бронзавымі прызёрамі сярод жаночых каноэ-двоек на дыстанцыі 500 метраў.



## «Свой» чэмпіён



На дыстанцыі 5000 метраў **Алег Юрэня** фінішаваў трэцім. Ён нарадзіўся ў Гродзенскай вобласці, а пазней пераехаў у Брэсцкую. Займацца спортам пачаў у 11 гадоў у Мастоўскай ДЮСШ. Брэндам Мастоўшчыны называюць веславанне на байдарках і каноэ, а Алега Юрэню ў гэтых краях лічаць «сваім» чэмпіёнам.

За зборную Беларусі спартсмен выступае з 2008 года. Удзельнік летніх Алімпійскіх гульняў у Лондане, двухразовы чэмпіён Еўропы, прызёр чэмпіянатаў свету. На спаборніцтвах выступае за Брэсцкую і Гродзенскую вобласці.



Падрыхтаваў Раман ВАСЮКОВІЧ.




ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Нет, это не фитофтора

***У томатов немало грибных болезней, но меня интересует серая гниль плодов и корневая гниль. Хотела бы знать, как с ними бороться.***

**Нина АХМЕТОВА.**

*Минск.*

Серая гниль поражает плоды обычно к концу вегетации, когда уже холодно и много дождей. Признаки болезни: на любых плодах – зеленых, бурых или красных – появляются мелкие, округлые пятна. Затем они увеличиваются и выделяют бурые точки, пятна выглядят водянистыми. Многие огородники путают эту болезнь с фитофторой. Возбудитель серой гнили может развиваться и на других наземных органах (стебли, листья, цветки), они также покрываются серой плесенью. Меры борьбы: удаление пораженных плодов и других частей растений, повышение температуры, обязательная дезинфекция почвы, опрыскивание больных растений фунгицидами – фундазолом.

Корневая гниль поражает растения в основном в теплицах. Признаки болезни: растения увядают, корневая шейка их загнивает. Этой же болезнью болеют и огурцы. Вот почему после огурцов опасно сажать томаты и наоборот. Меры борьбы: если все-таки после огурцов посадили томаты, то следует сделать тщательную дезинфекцию почвы раствором медного купороса и по возможности снять больной верхний слой земли и добавить свежий. Больные растения с корнями обязательно сжечь.

СПЕЦИАЛИСТЫ СОВЕТУЮТ

## Непрошеные гости

***На моем участке в последние годы стали появляться муравьи: где их только нет! Как от них избавиться?***

**Илья СТОЛЯРЧИК.**

*г.Малорита.*

Часто достаточно освободить дерево от листовой тли, чтобы освободить его от муравьев, которых она привлекает своим сладким соком. Если это не помогает, можно обвязывать ствол ватой или шерстью, намоченным в карболовом растворе; обмазывать его кольцом в ладонь шириной из сажи с льняным маслом; наконец подвешивать к веткам бутылки с сахарной водой, горлышки которых смазаны сиропом.

Особенно опасны муравьи, когда они располагаются у молодых корешков дерева. Для их уничтожения тогда можно пользоваться как обыкновенной, так и хлорной известью. Ту и другую (негашеную) известь насыпают на муравьиные кучи и поливают водой. 20%-ный раствор карболки, налитый на кучу, заставляет муравьев бежать. Есть и ряд других более или менее простых и безвредных для растений средств, как-то: кольца из смолы и глины, опрыскивания водой (1 л) с льняным маслом (30 г) и содой (5 г), обсаживание дерева луком.



ЛЮБОПЫТНЫЕ ФАКТЫ

## Почему почва зеленая

Нередко на поверхностях почвы, особенно в затененных местах, под деревьями и кустами, нетрудно заметить зеленые или даже иссиня-зеленые, словно бархатные, поверхности или подушечки. На ощупь снизу они бывают нередко жесткими, как корочки, иногда тонкими и нежными, как пленки, а то лежат, как войлочный налет на влажной поверхности. **Это явление называют «цветением почвы». Вызывают его водоросли.** Хорошо заметно оно бывает весной, когда много влаги, почва еще не укрыта растениями, но уже тепло и солнечно. Тогда на одном квадратном метре могут развиться сотни миллионов клеток зеленых водорослей, а их биомасса на этой площади достигает 100 и более граммов. Летом они активно растут по краям гряд, в междурядьях, под деревьями и кустами. Заселяют они и стволы деревьев, щели и углубления коры на них, живут на опавших листьях и под ними. Численность их варьирует от 5 тысяч до 1,5 миллиона в каждом грамме почвы. В дерново-подзолистой, например, их биомасса в слое 10 сантиметров обычно составляет от 40 до 300 килограммов на гектар.

Наряду с другими растениями водоросли образуют немало органического вещества, тем самым способствуя накоплению в почве перегноя, повышению ее плодородия.

Ведут фотосинтез и выделяют кислород в окружающую среду и цианобактерии. Некоторые из них образуют на поверхности почвы довольно большие, в несколько сантиметров, темно-оливково-зеленые слизисто-хрящеватые колонии, состоящие из многочисленных нитей, расположенных внутри слизи. Иногда такие колонии почти сплошь покрывают землю. Другие образуют на ней расплывающиеся пленки фиолетового оттенка. Чаще всего их можно встретить на загрязненных участках. Они имеют чисто зеленый цвет, не образуют каких-либо корочек или пленок, но заселяют верхний слой почвы весьма густо, иногда придавая ей зеленоватый оттенок.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Не забывайте про теплицы и парники

В августе в теплицах заканчивается плодоношение огурцов, томатов. Отплодоносившие растения срежьте, подсушите и сожгите. Теплички продезинфицируйте, снимите верхний слой почвы (2–3 см) и вынесите наружу. Подлежащие ремонту детали отремонтируйте, а временные каркасы разберите и уложите на хранение. В отапливаемые теплички в конце месяца можно высадить кочанный салат, рассаду огурцов или томатов.

В парниках тоже заканчивается плодоношение томатов и огурцов. Парники и пленочные укрытия очистите от мусора, снимите перепревшее биотопливо, рамы и подготовьте их к следующему году. Несколько рам можно занять под посев скороспелых культур или под дозаривание плодов томатов.

За 1,5 месяца до закладки урожая овощей и картофеля в погреб очистите его от мусора, смените песок для корнеплодов, продезинфицируйте стены, стеллажи и ящики хлорной известью (400 г на 10 л воды). Затем все проветрите и хорошо просушите.

ЧУЛІ?

## Сям'я Кіслейка – лепшая футбольная сям'я Беларусі




Днямі ў Мінску прайшоў фінал рэспубліканскага фестывалю «Тата, мама, я – футбольная сям'я!». У спаборніцтвах бралі ўдзел 100 сем'яў з усёй краіны. Арганізатарам фестывалю выступіла Асацыяцыя «Беларуская федэрацыя футбола».

Паводле вынікаў спаборніцтваў першае месца заняла сям'я Кіслейка з Мінска, якую на фестывалі прадстаўлялі 6 чалавек. Усе яны прызнаюцца, што спорт і здаровы лад жыцця – гэта тое, што аб'ядноўвае ўсіх членаў сям'і, робіць іх дружнымі, актыўнымі, а самае галоўнае – здаровымі.

Фестываль праводзіцца другі год запар. І калі ў мінулым годзе ў ім бралі ўдзел 56 сем'яў, то ў гэтым колькасць вырасла да 600.

## Узаемадапамога

Дапамагу шматдзетным, маламаёмным абуткам, адзеннем і іншым чынам. **Тэл. 8-029-191-11-87 (Velcom).**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 28.08.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 103 экз. Заказ № 2900.